



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

2 сакавіка 2018 года №9 (1192)


# Што неабходна ведаць пра прышчэпкі: калі і якія рабіць



**Адкуль у Беларусі ўсплёск коклюшу, як пазбегнуць рэакцый на прышчэпкі і якія лепш рабіць, раказвае педыятр**

старонка 21

Калаж Зоі ХРУЦКАЙ.







## Што будзе з "нерэгулярнымі" маршруткамі

старонка 4

# Маю права

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Смаргонскія ўлады распавядаюць пра шматдзетную маці, што ледзь не апынулася без жытла

СМАРГОНЬ

**Запазычанасць за камунальныя паслугі ў адзінокай шматдзетнай мамы Людмілы Аўсянік са Смаргоні – 2140 рублёў разам з пеняй. За гэты доўг жанчыне і яе дзецям пагражала высяленне з інтэрната па вуліцы Маладзёжнай.**

Але суд у чарговы раз пайшоў насустрач і даў Людміле адтэрміноўку на паўгода. Людміла баіцца, што дзяцей прызнаюць у сацыяльна-небяспечным становішчы і забяруць у яе.

Чаму ў шматдзетнай мамы атрымалася такая запазычанасць перад дзяржавай і якое можа быць вырашэнне гэтай праблемы?

Як распавялі ў камісіі па справах непаўналетніх Смаргонскага райвыканкама, у Людмілы Аўсянік пяцёра дзяцей. Старэйшая дачка, якая нарадзілася ў 2000 годзе, ужо вучыцца ў аграрным каледжы ў Ільі. Чацвёра – школьнікі. Трое жывуць з мамай, а 12-гадовая **Іаланта** – на Ашмяншчыне ў хроснай маці. Па словах спецыялістаў, там яна дагледжаная, добра вучыцца ў школе.

Дзеці, якія жывуць з Людмілай, вучацца ў вучэбна-педагагічным комплексе "Смаргонскі яслі-сад-пачатковая школа". Па словах дырэктара ўстановы **Юліі Удальевай**, меншы хлопчык не хадзіў у сад, таму вельмі дрэнна падрыхтаваны да школы.

– Маме неаднойчы рэкамендавалі аддаць сына ў садок, каб той атрымаў добрую дашкольную адукацыю, але яна не слухала нашых рэкамендацый, – падзялілася дырэктар.

Як распавяла **Алена Ярмак**, сацыяльны педагог школы, дзяцей Людмілы тройчы прызнавалі ў сацыяльна-небяспечным становішчы. Сёння такога статуса ў іх няма, але дакументы на прызнанне ў сацыяльна-небяспечным становішчы, улічваючы сітуацыю ў сям'і, ужо сабралі.

### Забралі дзяцей, бо мама пакінула іх на чужога чалавека

Галоўны спецыяліст камісіі па справах непаўналетніх **Таццяна Копач** распавяла, што ў 2014 годзе дзяцей у Людмілы забіралі. Каля трох месяцаў яны знаходзіліся ў сацыяльна-педагагічным цэнтры.

– Забраць мусілі таму, што тады яшчэ пяць малалетніх дзяцей мама пакінула на некалькі дзён на сваю знаёмую і з'ехала ў Мінск працаваць. Сяброўка запіла. Дзеці аказаліся зусім без нагляду. Людміле мы паведамілі па тэлефоне пра тое, што забіраем дзяцей, прасілі прыехаць. Аднак яна з'явілася толькі праз дзень, калі дзеці ўжо былі ў прытулку, – прыгадвае падзеі 2014 года дырэктар сацыяльна-педагагічнага цэнтра Смаргоні **Ларыса Татарынава**.

У аддзеле адукацыі Смаргонскага райвыканкама сям'ю Людмілы Аўсянік ведаюць ад 2010 года. Менавіта тады жанчына пераехала ў Смаргонь з Ашмяншчыны. Тады ж Смаргонскі аддзел адукацыі звязваўся з калегамі з Ашмянаў і Мінска, дзе жыла сям'я. Там паведамілі, што, калі Людмілай пачыналі цікавіцца сацыяльныя службы, яна адразу ж з'язджала ў іншае месца.

### Пра жыллё і працу для Людмілы паклапаціўся аддзел адукацыі

– Калі педагогі наведвалі сям'ю, яны заўважылі, што іх вучні жывуць у неналежных умовах. Людміла зняла дом у дрэнным стане ля чыгункі, нідзе не працавала, – кажа **Тамара Гружэўская**, галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама.

Па яе словах, работнікі аддзела адукацыі пачалі хадайнічаць, каб жанчыне далі жыллё і працу. Хутка яна атрымала пакой у інтэрнаце, стала працаваць дворнікам у гаргазе. На той момант атрымлівала трыста рублёў. Было важна тое, што працавала побач з інтэрнатам, дзе жыла. Пазней Людміле далі блок, выдзелілі адрасную дапамогу, каб зрабіць рамонт.



Днямі суд даў Людміле Аўсянік чарговую адтэрміноўку. На гэты раз на паўгода.

Пакуль у мамы былі праблемы з жыллём і працаўладкаваннем, дзяцей па яе заяве ўзялі на два месяцы ў сацыяльна-педагагічны цэнтр. Па рашэнні райвыканкама яе вызвалілі ад аплаты за знаходжанне дзяцей у прытулку.

Аднак з гаргазу Людміла звольнілася праз дзесяць месяцаў. Сказала, што не задавальняе заробак. На сённяшні дзень афіцыйна яна нідзе не працуе, у аддзеле занятасці не зарэгістраваная.

– Людміла з раніцы да вечара – у Мінску, а ад гэтага церпяць дзеці, – лічыць галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму **Галіна Рацько**. – Колькі раз здаралася, што са школы і садка педагогі дадому прыводзілі дзяцей Людмілы.

– Тое, што жанчына афіцыйна не працаўладкаваная, пазбаўляе яе права на субсідыю за камунальныя паслугі, якую яна магла б штомесячна атрымліваць ад дзяржавы, – кажа **Ксенія Мізула**, юрысконсульт КУП "ЖРЭС". – Так, плаціць за інтэрнат трэба немалыя грошы. Так, аплата паслуг за студзень для гэтай сям'і склала крыху больш за 200 рублёў. У блоку зарэгістравана шэсць чалавек, там не стаіць лічыльнікі, адсюль і сума такая. Але калі б жанчына афіцыйна працавала, кожны месяц дзяржава аплачвала б ёй 20% з гэтай сумы.

– Людміла магла б аплаціць камунальныя паслугі з адраснай дапамогі, якую мы ёй выдзяляем, – далучаецца да размовы начальнік аддзела сацыяльнай дапамогі **Надзея Містратава**. – Ад 2012 да 2017 года Людміла Аўсянік атрымала 5136 рублёў адраснай дапамогі. Падчас усіх дабрачынных рэспубліканскіх акцый яна таксама атрымлівае грошы. Напрыклад, у пачатку гэтага навучальнага года на кожнае дзіця ёй далі 50 рублёў, каб падрыхтавацца да школы. Аднак з гэтай дапамогі жанчына заплаціла за камунальныя паслугі толькі два разы.

Якое выйсце бачыць сама Людміла з гэтай сітуацыі? Па словах спецыялістаў аддзела адукацыі, жанчына вельмі зацікаўленая атрымаць арэнднае жыллё. Кажа, калі будуць адпаведныя жыллёвыя ўмовы, будзе плаціць за кватэру. Яна ўжо напісала заяву на атрыманне арэнднага жылля. Але тут ёсць чарга: калі кватэра вызваляецца, яе атрымлівае той, хто першы падаў заяву. Да таго ж Людміла хоча новую кватэру, а не тую, у якой нехта ўжо жыў.

Пры любым вырашэнні праблемы дзеці не застануцца без жылля, запэўнілі ў аддзеле адукацыі.

З самой Людмілай мы сустрэцца не змаглі, бо яна была ў Мінску. Але гатовыя сустрэцца, калі яна выйдзе на сувязь з намі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## Адзінокая шматдзетная мама з вёскі Пекары атрымала інтэрнат

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра жанчыну "РГ" пісала летась: яна баялася, што перад Новым годам давядзецца застацца без даху над галавой.**

Адразу пасля публікацыі "Камунальнік" прапанаваў **Ірыне Борыс** інтэрнат у Маладзечне па Забэйды-Суміцкага. Блізка і да працы жанчыны, і дзяцей вадзіць у новую школу.

– Ой, тут жа проста як кватэра! – дзеліцца ўражаннямі Борыс. – Два пакоі, туалет, душ і гарачая вада заўсёды! Зручна з усіх бакоў.

Ключ ад інтэрната жанчына атрымала ў студзені, праз месяц засялілася. А з домам у вёсцы працягваюцца праблемы з дакументамі.

– Вядома, хочацца мець уласнае жыллё. Але пакуль інтэрнат нас цалкам задавальняе, – падсумавала шматдзетная маці.

Пра праблему Ірыны Борыс "РГ" пісала ў снежні. Жанчына адпрацавала больш за дзесяць год у ААТ "Гарадзілава", мела дом ад гаспадаркі. Некалькі год таму дом пачаў даваць трэшчыны. У 2016 жанчына атрымала патрабаванне выселіцца. З-за неналежнага стану дом прызналі аварыйным, у якім нельга жыць дзецям.

На пасяджэнні органаў апекі жанчыне паведамілі, што, каб захаваць дом, яна павінна вярнуцца на работу ў "Гарадзілава". Аднак стан здароўя жанчыны такі, што яна не можа працаваць даяркай, Ірына ўладкавалася санітаркай у Маладзечне. Да працы ёй даводзіцца дабірацца 30 кіламетраў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Як найдаўжэй захаваць святочны букет?

**На пачатку вясны ўсе жанчыны атрымліваюць кветкі ад тых, хто любіць і цэніць. Хочацца, каб гэта прыгажосць жыла як мага даўжэй.**

Мы падрыхтавалі простыя інструкцыі, як працягнуць жыццё самага прыгожага падарунка.

Калі прынеслі кветкі з халоднай вуліцы, не спяшайцеся ставіць у вазу. Дайце ім гадзінку акліматызавацца.

Дастаньце расліны з плёнкі. Жывыя кветкі прыгожыя самі па сабе, а ўпакоўка патрэбная толькі для зручнага транспартавання.

З ніжняй часткі сцябла абарвіце лісце. Лісткі не будуць гніць, а сцяблінкі атрымаюць больш вады.

Падразайце кветкі пад струменем вады. Калі паветра трапляе ў полае сцябло, гэта скарачае жыццё кветкі.

**Падразайце сцяблінкі і мяняйце ваду штодня.**

Аспірын, соль ці спірт прадухіляць загніванне, а цукар працягне жыццё раслінак.

Асвяжыць букет можна, папырскаўшы раніцай халаднаватай вадой. Калі каля кветак паставіць вазу з фруктамі, яны хутчэй загінуць.

Не варта займацца кветкамі ў кепскім настроі. Даўжэй за іншыя стаяць кветкі, якія дарылі і даглядалі з любоўю.

**Эмілія ХВОЯ.**




**1** Абрэжце сцяблінкі пад вуглом 45 градусаў. Так кветкам будзе лягчэй «піць» ваду. Падразайце сцяблінкі кожныя два дні.

**2** Пастаўце букет далей ад батарэй і прыбораў, якія награваюцца падчас працы. Не стаўце яго ля садавіны: яна выдзяляе этылен, які паскарае ападанне пялёсткаў.

**3** Абарвіце лісце, якое трапляе пад ваду. Своечасова абрывайце кветкі, якія адцвілі.

**4** Каб бактэрыі ў вадзе развіваліся не так хутка, дадайце ў вазу або тоўчаны аспірын, або таблетку вугалю, або дробку солі. Тую ж ролю будзе выконваць і медная манетка, кінутая на дно вазы.

**5** Штодзень мяняйце ваду ў вазе. Сачыце за тым, каб вада была пакаёвай тэмпературы.

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.02 | 1.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9623 | **1,9556** |
| Еўра | 2,4163 | **2,3897** |
| Злоты, 10 | 5,8215 | **5,7177** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4624 | **3,4693** |
| Грыўня, 100 | 7,2685 | **7,2929** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 2102 | 28.02 |
| Еўра | 2.4100/2.4250 | **2.3800/2.4110** |
| Долар ЗША | 1.9580/1.9650 | **1.9480/1.9570** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 21.02 | 28.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,95 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 2,90 | **3,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | - | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,99 | **5,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,48** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,20 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **2,80** |
| Перац, 1 кг | 6,70 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **3,40** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,90 | **3,80** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,40 | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,39** |
| Хурма, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,95 | **1,85** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | **Гандлёвыя пункты зачыненыя** |
| Масла, 1 кг | - | |
| Мёд, 0,5 л | - | |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | - | **Гандлёвыя пункты зачыненыя** |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | |

## Ад 1 сакавіка забаранілі лоўлю шчупака

Для большасці насельнікаў нашых рэк і азёр вясна – час нерасту. Раней за іншыя віды рыб нерастуе шчупак. Пры разліве ён адкладае ікру ва ўзбярэжных зонах вадаёмаў і ў поймах рэк, пры гэтым робіцца безабаронным перад чалавекам.

Для стварэння найбольш спрыяльных умоў правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ад 1 сакавіка да 15 красавіка забароненая лоўля шчупака.

Рыбу, якая трапіла на кручок выпадкова, трэба адпусціць назад у вадаём. Тэрміны забароны на лоўлю шчупака не пераносяцца і не змяняюцца ў залежнасці ад умоў надвор'я.

Браканьерская лоўля кожнай нераставай асобіны прыводзіць да знішчэння ў вадаёме дзясяткаў тысяч ікрынак, і таму шкода па кожнай незаконна вылаўленай рыбе падаецца ў трайным памеры. Для шчупака яна складае дзевяць базавых велічынь – 220 рублёў 50 капеек.

Варта нагадаць, што да 31 сакавіка працягваецца забарона на лоўлю сома, а 28 лютага заканчваецца тэрмін на лоўлю ментуза звычайнага.

**Паводле Мядзельскай міжраённай інспекцыі жывёльнага і расліннага свету.**

## Адчынілі цэнтр па бяспецы жыццядзейнасці за грошы Еўрасаюза

**ВАЛОЖЫН**

22 лютага ў валожынскай школе №2 адчынілі міні-цэнтр бяспекі жыццядзейнасці. Яго стварылі ў рамках праекта "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь", які фінансуе Еўрасаюз, распавялі ў Валожынскім райвыканкаме.

У цэнтры – сучаснае абсталяванне, якое ў гульнявой форме вучыць, як паводзіць сябе ў экстрэмальнай сітуацыі. Пасля цырымоніі адкрыцця актывісты клуба юных выратавальнікаў-пажарных прадэманстравалі работу цэнтра. Яны адпрацоўвалі навыкі паводзін на лёдзе, тушылі пажар, аказвалі дапамогу пацярпеламу і выклікалі па тэлефоне экстранныя службы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● 1 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З НАРКОТЫКАМІ

## Зразумейце: недапушчальная нават аднаразовая доза наркотыку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Наркаманія – сацыяльна небяспечнае псіхічнае захворванне. Наркатычны стан могуць выклікаць шматлікія рэчывы, якія дзейнічаюць на псіхіку. І ўсе яны без выключэння атрутныя. Гэта вельмі шырокае кола рэчываў – ад лекаў, якія валодаюць псіхатропным эфектам, да сродкаў бытавой хіміі.

Любы, хто першы раз спрабуе нешта проста з цікаўнасці, на 100% упэўнены, што яму гэта не пашкодзіць. Вядома, што першая спроба наркатычнага рэчыва адбываецца ў кампаніі, пад уплывам сяброў, знаёмых.

Спрыяе гэтаму і псіхалагічная ўстаноўка: "Ну, адзін жа раз можна...".

Варта зрабіць важную для сябе выснову: недапушчальная нават аднаразовая проба наркотыку.

У цяперашні час распаўсюджванне наркаманіі набыло пагрозлівы, эпідэмічны характар. Найбольшая колькасць людзей, якія пакутуюць ад гэтай страшнай хваробы, – ва ўзросце ад 13 да 30 гадоў. За апошнія пяць год колькасць дзяцей і падлеткаў, якіяназіраліся ва ўстановах аховы здароўя з нагоды ўжывання наркотыкаў, узрасла амаль у 15 разоў.

Многія дзеці вырастаюць у цыгарэтным дыме, бачаць алкагольныя застоллі, рана знаёмяцца са спіртнымі напоямі. У выніку падлеткі не ўспрымаюць іх як небяспечныя для здароўя і жыцця. Прапанова закурыць, выпіць, дадаць што-небудзь у тытунь або алкаголь не выклікае пратэсту або адчування небяспекі.

Па меры ўзрастання наркатычнага "стажу" ступень прыемнага эфекту ад наркотыку зніжаецца, а інтэнсіўнасць "ломкі" (абстыненцыі) узрастае.

Нагадаем яе праявы: настрой псуецца, узнікае раздражняльнасць, усё вакол пачынае "бясіць", баліць усё цела, чалавек літаральна не можа знайсці сабе месца.

Для павелічэння колькасці пакупнікоў наркагандляры выкарыстоўваюць рознага роду падман. Гэта сцвярджэнні аб тым, што наркотыкі бясшкодныя, выклікаюць прыемныя адчуванні, павышаюць працаздольнасць, сэксуальныя магчымасці і г.д.

Распаўсюджванню наркотыкаў спрыяюць і самі наркаманы, аказваючы на пачаткоўцаў наркатычны ціск (угаворы, прапанова паспрабаваць і г.д.). Паводле статыстычных дадзеных, адзін наркаман можа ўцягнуць ва ўжыванне наркотыкаў да 10-15 чалавек.

Кожны чалавек мае мноства патрэбаў. У першую чаргу, гэта жыццёва важныя (у ежы, адпачынку, вопратцы і г.д.). Мае чалавек і сацыяльныя патрэбы (у зносінах, сацыяльным прызнанні, зацвярджэнні ў калектыве, групе, класе і г.д.). Чым вышэй узровень сацыяльнага развіцця асобы, тым вышэй узровень яе духоўных патрэбаў.

Большасць людзей задавальняюць свае патрэбы натуральнымі спосабамі. Але ў некаторых выпадках пад уздзеяннем знешніх прычын яны могуць задавальняць свае жаданні і ў ненатуральных формах. Так адбываецца, калі чалавек адчувае патрэбу зняць эмацыйнае або фізічнае перанапружанне, стому, але робіць гэта не натуральным спосабам – адпачынкам і пераключэннем, а паглынаннем сябе ў стан ап'янення.

Некаторыя наркатычныя рэчывы ўздзейнічаюць непасрэдна на галаўны мозг і здольныя на кароткі час выклікаць ілюзію радасці, эмацыйнага ўздыму. Ужыванне наркатычных рэчываў з'яўляецца спосабам як бы незаконнага прысваення прыемных перажыванняў. Гэта "пазычаная радасць". Менавіта яна атрымала назву эйфарыя. Чым мацней гэты стан, тым большае жаданне паўтарыць аднойчы дасягнуты эфект. Але і нашмат хутчэй фарміруецца і прывыканне, і нашмат цяжэйшыя наступствы для псіхікі і арганізма.

**Анжэла КЛІНЦЭВІЧ,**
**псіхолаг**
**Маладзечанскага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**








Пакуль нерэгулярныя маршруткі працуюць па сваім раскладзе і чакаюць адказу ад Міністэрства транспарту, у чым іх парушэнні.
Фота Наталлі ТУР.

# Што будзе з "нерэгулярнымі" маршруткамі?

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Ад 26 студзеня нерэгулярныя маршрутныя перавозкі сталі незаконнымі.**

Начальнік транспартнай інспекцыі па Мінску і Мінскай вобласці **Георгі Жулега** патлумачыў:

– 23 студзеня 2018 года ўступілі ў сілу змены ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках". Змены датычыліся новых крытэрыяў адмежавання відаў аўтамабільных перавозак пасажыраў да рэгулярных і нерэгулярных зносін.

Транспартная інспекцыя правяла маніторынг шэрагу міжгародніх маршрутак, у тым ліку і маршруткі Маладзечна-Мінск-Маладзечна.

– Па выніках маніторынгу выяўлена, што пад выглядам нерэгулярных перавозак фактычна выконваюцца рэгулярныя перавозкі.

Паводле інфармацыі Міністэрства транспарту і камунікацый, шэрагам перавозчыкаў не заключаўся дагавор аб арганізацыі перавозак у рэгулярных зносінах па адпаведных маршрутах.

– Для ажыццяўлення і ў далейшым гэтых перавозак, якія ў адпаведнасці з Законам аднесены да рэгулярных, перавозчыкам у абавязковым парадку неабходна звярнуцца ў мясцовы выканаўчы орган па месцы рэгістрацыі для заключэння дагавора на ажыццяўленне аўтамабільных перавозак пасажыраў у рэгулярных зносінах на пэўнай тэрыторыі. У выпадку невыканання патрабаванняў транспартнай інспекцыі, у адпаведнасці з пунктам 8 Палажэння аб парадку правядзення маніторынгу, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 кастрычніка 2009 г. №510 "Аб кантрольнай (наглядныой) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь", і не ўхіленне суб'ектам выяўленых у ходзе маніторынгу парушэнняў транспартнай інспекцыяй у дачыненні да парушальнікаў будуць ужытыя меры ў адпаведнасці з заканадаўствам.

### Патрабаванні да маршрутак застануцца ранейшымі. Але дададуцца расходы

З пункту гледжання пасажыраў, маршруткі, у тым ліку і нерэгулярныя, гэта зручны спосаб дабрацца да месца. Папершае, маршруткі фактычна маглі забраць пасажыра з любога месца, па-другое, забраніраваць маршрутку можна любымі спосабамі, ад званка аператару да браніравання анлайн. Маршруткі ў дарозе даюць магчымасць карыстацца бясплатным вайфаем. Толькі што каву з пячэнькамі не прапаноўвалі.

Нерэгулярныя маршруткі мелі ўсе дакументы: ад ліцэнзіі да касавага апарата. Працавалі сумленна і па законе.

Нерэгулярныя маршруткі маглі не ехаць тады, калі не прыходзілі людзі, або, наадварот, пусціць дадатковую маршрутку ў суботу, калі студэнты натоўпам едуць дадому, або ўвечары, калі апошняя маршрутка пайшла па раскладзе, а ахвотных ехаць хоць адбаўляй.

Цяпер, згодна з законам, маршрутачнікі павінны выконваць тыя ж самыя патрабаванні рэгістрацыі. Плюс да таго, ездзіць ад вакзалаў (і, вядома, плаціць за гэтую маршрутку аўтавакзалу), мець канкрэтны расклад руху, білеты павінны прадавацца ў касах (і за гэта таксама трэба заплаціць).

### Што ў выніку?

Церпяць пасажыры. У сацыяльных сетках маршрутачнікаў грамадзяне падтрымалі.

Піша карыстальнік Е.Б.: "Мой выбар ездзіць з прыватнікамі, бо камфортныя ўмовы: забяруць-прывязуць куды трэба, калі спазняешся, пачакаюць, ветлівыя і культурныя кіроўцы, паслугі арганізаваныя ў нагу з часам (зручнае браніраванне)".

І шмат іншых падобных водгукаў: танней, хутчэй, камфортней, зручней.

У пачатку тыдня супольнасць пасажыраў і маршрутачнікаў аб'ядналася і на сайце "Петыцыя.бай", стварылі петыцыю са зваротам захаваць маршруткі.

У сераду, 28 лютага, пад петыцыяй падпісалася больш за 13 000 чалавек.

Індывідуальны прадпрымальнік **Ігар Канапелька** упэўнены, што калі іх абавяжуць стаць рэгулярнымі перавозчыкамі, ад гэтага будзе кепска ўсім:

– Вернемся да пачатку 90-х. Калі натоўп на вакзале, нязручны расклад. На маршруце будзе не больш за пяць прыпынкаў. Трэба будзе купляць білеты ў касе аўтавакзала, адстаяўшы пры гэтым чаргу. Ужо сёння нам сказалі, што за 15 хвілін карыстання тэрміналам трэба будзе плаціць 12 рублёў, плюс 15 рублёў за працу дыспетчара. Як вы думаеце, кошт пры такіх умовах застанецца 3,5 рубля? – задае рытарычнае пытанне Ігар Канапелька.

Кіроўцы нерэгулярных маршрутак напісалі ліст у Міністэрства транспарту.

– Мы папрасілі адказаць на нашы пытанні, што канкрэтна мы парушаем. Пакуль адказу не атрымаем, будзем працаваць.

У некаторых гарадах Беларусі, напрыклад, у Полацку, Бабруйску і Слуцку, нерэгулярныя маршрутныя таксі часова прыпынілі сваю дзейнасць. Маладзечанскія маршруткі працуюць. Пакуль...

**Наталля ТУР.**

# Цёплы басейн, трэнажоры і чароўная цаглінка

## Як гадуюцца і вучацца дзеці ў Маладзечанскай санаторнай школе-інтэрнаце

МАЛАДЗЕЧНА

**Вы ведаеце, дзе ў Маладзечне можна навучыцца страляць з лука, плаваць у самым цёплым у горадзе басейне і нават патрымацца за клямку жаданняў?**



Заняткі на артапедычных кушэтках.



На занятках у творчай майстэрні ткуць габелены.

Дзяўчаты займаюцца пілатасам.

Калі не, то запрашаю вас на экскурсію ў Маладзечанскую санаторную школу-інтэрнат.

Праз два гады вучні і супрацоўнікі школы адзначаць яе 60-годдзе. Але гледзячы на ўтульныя будынкі, новую мэблю, сучасныя спартыўныя залы і медыцынскія кабінеты з унікальным абсталяваннем, з цяжкасцю верыш, што школа працуе ад 1960 года.

Сёння санаторная школа-інтэрнат у Маладзечне – адзіная на Міншчыне спецыялізаваная ўстанова, дзе дзеці з захворваннямі касцёва-мышачнай сістэмы могуць вучыцца і атрымліваць прафесійную медыцынскую дапамогу.

Штогод за кансультацыяй сюды звяртаецца каля тысячы дзяцей, якія маюць праблемы з пазваночнікам. А класы на наступны навучальны год пачынаюць фарміраваць у лютым.

– Мы супрацоўнічаем з галоўнымі дактарамі цэнтральных раённых бальніц Мінскай вобласці, – распавядае дырэктар школы **Уладзімір Ляговіч**. – Просім падаць нам спісы дзяцей, якія маюць патрэбу вучыцца ў нас. Школа разлічана на 200 чалавек. Звычайна столькі і бывае кожны год. Дзеці знаходзяцца ў школе ад чвэрці да года. Яны атрымліваюць медыцынскую дапамогу, рэкамендацыі, а потым едуць у сваю школу.

Адбываецца сацыялізацыя, дзеці на вельмі доўгі час не адрываюцца ад дома і бацькоў. І ўсё ж, як распавялі педагогі, вучні звычайна не хочуць ехаць дамоў. Чаму? Прычын шмат.

Магчыма, адна з самых важных – кваліфікаваныя педагогі. Як распавяла намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Людміла Данілевіч**, займацца да іх педагогаў-прадметнікаў ходзяць вучні з іншых школ горада. Школа працуе ў такім накірунку ў рамках платных паслуг. На пачатку года ахвотныя могуць патэлефанаваць, абмеркаваць зручны для заняткаў час – і атрымліваць дадатковыя веды па выбраным прадмеце.

Дзеці прыязджаюць з розных школ – адпаведна і замежныя мовы для вывучэння тут розныя. Гэта англійская, нямецкая, французская і іспанская. Для вывучэння замежных моў абсталяваны сучасны лінгафонны кабінет. А займаюцца вучні па аўтарскіх камп'ютарных праграмах сваіх настаўнікаў.

У многіх класах – інтэрактыўныя дошкі, камп'ютары з выхадам у інтэрнэт і, што асабліва важна, артапедычныя кушэткі. Дзеці могуць займацца на іх лежачы і седзячы. Тут, пад кушэткай, ёсць спецыяльная скрыня для падручнікаў і школьных прылад. Для дзяцей, якім па медыцынскіх паказаннях трэба насіць гарсэты, ёсць спецыяльныя парты.

Вельмі ганарыцца кіраўніцтва рамонтам у сталовай, які зрабілі ў мінулым годзе. Вучні знаходзяцца ў школе круглыя суткі, таму харчуюцца пяць разоў на дзень.

У медыцынскім корпусе робяць масаж, неабходныя прышчэпкі, фізіятэрапеўтычныя працэдуры. Працуюць педыятр, неўролаг, артапед, стаматолаг.

Камп'ютарна-аптычны тапограф, неабходны для таго, каб рабіць рэнтген пазваночніка, з'явіўся ў інтэрнаце ў ліку першых у рэспубліцы. У Беларусі нават адпаведных спецыялістаў не было, таму супрацоўнікі інтэрната ездзілі вучыцца ў Новасібірск.

Яшчэ адна тэхнічная медыцынская цікавостка – апарат адваротнай біялагічнай сувязі. Дзякуючы яму можна даваць нагрузкі на патрэбныя групы мышц.

– Пасля комплексу лячэбных працэдур ў 29 дзяцей з 30 хвароба прыпыняецца, – распавёў доктар траўматолаг-артапед (загадчык медыцынскага аддзялення) **Сяргей Іваненка**.

### Умацоўваюць прэс і здымаюць стрэс

Шмат увагі ў школе надаюць фізічнай рэабілітацыі. Вучні займаюцца лячэбнай фізкультурай, плаваннем на ўласным басейне. Як запэўніў дырэктар школы-інтэрната, басейн тут самы цёплы ў горадзе. Тэмпература вады не апускаецца ніжэй за 30 градусаў. Бацькі з горада прыводзяць сюды дзяцей на лячэбнае плаванне. Цэны – даступныя, трэнеры – з вялікім досведам.

Займаюцца ў школе і папулярным сёння пілатасам – практыкаваннямі, якія ўмацоўваюць прэс і здымаюць стрэс.

Спартыўных залаў у школе некалькі. Ва ўсіх ёсць неабходнае абсталяванне. Нядаўна набылі падвясныя сістэмы, неабходныя для заняткаў дзяцей, хворых на скаліёз.

Тут жа ёсць і трэнажорныя залы, займацца ў якіх могуць не толькі вучні інтэрната, але і гараджане. З усімі працуюць настаўнікі фізічнай рэабілітацыі, якія дадуць парады, што выконваць, каб пазбавіцца ад болю ў спіне.

А яшчэ па скаліёзе тут б'юць… стральбой з лука. Такое лячэнне праводзяць строга па медыцынскіх паказаннях. У залежнасці ад праяўлення хваробы, хтосьці страляе з правай рукі, хтосьці – з левай.

### Ёсць сёмы школьны дзень

Думаеце, вучоба і спорт – гэта ўсё, чым жывуць вучні школы-інтэрната? Тады слухайце далей. Калі вы хочаце стварыць арыгінальны падарунак для родных і сяброў або ўпрыгожыць уласную кватэру, вам – у творчую майстэрню школы-інтэрната да настаўніцы **Людмілы Голенкі**. У педагога вялікі паспяховы досвед удзелу ў абласных і рэспубліканскіх конкурсах "Калядная зорка", "Вясёлкавы карагод", "Саматканы цуд".

Вучні Людмілы Голенкі плятуць вузельчыкавыя лялькі і габелены, размалёўваюць посуд, робяць карціны з драўлянай мазаікі. Матэрыялы для заняткаў набываюць за кошт школы. У творчай майстэрні рады не толькі вучням школы-інтэрната. Прыходзяць сюды і зацікаўленыя маладзечанцы. Як і ў вакальна-эстрадную студыю "Асоль", якой кіруе **Вольга Паўловіч**. Яе вучні часта займаюць прызавыя месцы на аглядах-конкурсах высокага ўзроўню. Каб разнастаіць вольны час вучняў, працуе і педагог-арганізатар **Алена Прывалава**.

– У звычайных школах часта кажуць пра шосты школьны дзень. А ў нас ёсць і сёмы, – дзеліцца Уладзімір Ляговіч. – Магчыма, ад таго, што дзеці сем дзён на тыдзень заняты, вучні інтэрната не здзяйсняюць злачынстваў. Усё ж мы разумеем сваю павышаную адказнасць: бацькоў побач з дзецьмі няма.

І ўсё ж нягледзячы на разнастайныя заняткі ў школе, вучні знаходзяць час на музычныя студыі і спартыўныя секцыі па-за школай. Напрыклад, **Кацярына Мышук** займаецца фехтаваннем, **Леанід Гіро** – хакеем, некаторыя наведваюць музычную і мастацкую школы ў Маладзечне.

Ад 2013 года на базе школы працуе абласны лінгвістычны лагер для вучняў, якія праяўляюць поспехі ў вывучэнні англійскай мовы.

З гонарам распавядае Уладзімір Ляговіч пра выпускнікоў школы-інтэрната. Гэта мастак **Васіль Лазоўскі**, аўтар і выканаўца ваенных песень **Сяргей Макей**, магістр тэхнічных навук, кіраўнік міжнароднага інстытута дыстанцыйнай адукацыі БНТУ **Дзмітры Бараноўскі**, артыст дзяржаўнага камернага хору **Сяргей Школьнікаў**.

Калі вы завітаеце ў школу-інтэрнат, не палянуйцеся зайсці ў школьны музей. Яго кіраўнік **Ігар Шкаруба** распавядзе, як вялі гаспадарку нашы продкі, пры якіх умовах дзяўчыну садзілі на дзяжу, і пакажа сямейныя альбомы пачатку 20 стагоддзя.

А яшчэ ў музеі ёсць чароўная клямка і цагліна, якія выконваюць жаданні. Цагліна – з колішняга Маладзечанскага замчышча. На ёй – адбітак пальцаў старажытнага майстра.

Па прапанове кіраўніка музея я паклала далонь на цагліну і загадала жаданне. Калі збудзецца, абавязкова вярнуся сюды, каб загадаць яшчэ адно.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка аднарадная да міні-трактара Т-25, Т-40. Т. (8-044) 5543365. Іосіф.*

• Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Піяніна "Беларусь" у выдатным стане, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 6544991.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы пакрытыя, 2 гады, ад высокаўдойных бацькоў. Акот у сакавіку. Т. (8-044) 7462476.*

• Трусы мясной пароды для размнажэння. Ёсць розных узростаў. Т. (8-044) 7230423. (8-029) 7685772.*

• Куры-нясушкі маладыя, рознага апярэння, Чэшскі Дамінант, (яйцэ па старых цэнах і ўцэнения) будуць прадавацца 3 і 4 сакавіка (у далейшым кожныя суботу і нядзелю) з 8:00 да 15:00 ужо **НА НОВЫМ І ПАСТАЯННЫМ МЕСЦЫ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ – АЎТАСТАЯНКА РЭЧАВАГА РЫНКУ** (праезд каля "Модуля"). Таксама заўсёды ў наяўнасці ячмень, пшаніца, авёс, кукуруза цэлая і молатая, к/кармы поўнарацыённыя для курэй-нясушак, свіней, трусоў, маладняку. Цэны і дастаўка дагаворныя ад калькасці. ІП Жаўток І.В. УНП 691895897. Т. (8-029) 5530942.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*



**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бронзавыя статуэткі "Буды". Карціны рускіх мастакоў. Рукапісныя кнігі. Старадаўнюю ікону. Купляе калекцыянер. Т. Вэлком (8-029) 6550007.*

• Бульбу ў насельніцтва. Т. (8-029) 8456305.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Куплю шкуркі куніцы, выдры. Т.(8-029) 8552646.*

**ПРАЦА**

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Цырульнік-універсал. Т. 98-029) 7098759.*

• ПУП "Клімянок" запрашае на працу швачку 5 разраду і вышэй з досведам работы і ўменнем шыць хутка і якасна. Адрас: г. Вілейка, вул. Шубіна, 31-а, УНП 691170347. Т. (8-01771) 77914, (8-01771) 77915, (8-029) 7671717.*

• Сядзелка для жанчыны з пражываннем. Т. (8-029) 7052670, (8-017) 2366032.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу напілаваць дровы. Т. (8-029) 2609392.*

• Кладка блокаў, цэглы, бетонныя работы, зварачныя, агароджы, дах, спілоўванне дрэў і г.д. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.

• Масажыст шукае працу. Т. (8-029) 9756978.



## Аб вяртанні збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў

Аляксандр Лукашэнка 25 студзеня 2018 падпісаў Дэкрэт №1 "Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва", які ўступіў у сілу ад 27 студзеня 2018 года.

Дэкрэт накіраваны на тое, каб беспрацоўным грамадзянам максімальна садзейнічалі ў пошуку працы, стымулявалі працоўную занятасць і самазанятасць насельніцтва.

Дэкрэт таксама вызваляе плацельшчыкаў збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў – так званага падатку на дармаедства" – ад выплаты гэтага збору. Тым, хто заплаціў такі падатак летась, грошы вернуць на падставе заяў у парадку, устаноўленым заканадаўствам.

У адпаведнасці з пералікам адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян, залік, вяртанне падаткаў, пошлін і пені з'яўляецца адміністрацыйнай працэдурай, што ажыццяўляюць падатковыя органы.

Указаную працэдуру праводзяць на падставе пададзенай у падатковы орган па месцы жыхарства пісьмовай заявы зацікаўленай асобы. Неабходна таксама прадставіць пашпарт або іншы дакумент, які пацвярджае асобу грамадзяніна.

Падаць заяву можа і прадстаўнік зацікаўленай асобы. Тады яму трэба мець даверанасць, афармленую ў парадку, устаноўленым грамадзянскім заканадаўствам.

Вяртанне збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў ажыццяўляецца адным з двух спосабаў, якія называюцца ў заяве:

• на рахунак у беларускім банку (пры ўмове ўказання рэквізітаў бягучага (разліковага) ці іншага банкаўскага рахунка: нумар і тып рахунка, найменне банка, код банка, код валюты);

• наяўнымі грашыма з касы адасобленага (структурнага) падраздзялення адкрытага акцыянернага таварыства "Ашчадны банк "Беларусбанк".

Тэрмін ажыццяўлення адміністрацыйнай працэдуры – 1 месяц з дня падачы заявы.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне**

### Якія дакументы трэба прадставіць, каб вярнулі падатак

1. Пашпарт або іншы дакумент, што пацвярджае асобу
2. Пісьмовая заява
3. Даверанасць, калі грошы будзе атрымліваць прадстаўнік зацікаўленай асобы

# Маладзечанскія геолагі – гэта каманда сапраўдных прафесіяналаў

**Амаль паўстагоддзя працуе ў Маладзечне вядомая ў прафесійным асяроддзі арганізацыя – Маладзечанскае ўпраўленне буравых работ. Гэта філіял вялікай газатранспартнай кампаніі ААТ "Газпрам трансгаз Беларусь".**

І ўсе гэтыя 50 гадоў арганізацыю немагчыма ўявіць без геалагічнага аддзела – свайго роду эліты бурэння.

Аддзел геолагаў – гэта калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў, прафесіяналаў сваёй справы. У аддзеле працуюць пяць чалавек. І вялікая рэдкасць, што ўдалося застаць іх усіх разам, бо праца геолага – гэта, перш за ўсё, камандзіроўкі, праца ў палях, разведка.



**Геалагічны аддзел сёння складаецца з пяці чалавек. Злева направа: геолаг Аляксандр Рудой, тапограф Алег Белячэўскі, вядучы геолаг Віктар Ткачоў, кіраўнік аддзела Яўген Кінаш і геолаг Аляксей Хмарэнка.**

У аддзеле працуюць геолагі **Аляксандр Рудой** і **Аляксей Хмарэнка**, вядучы геолаг **Віктар Ткачоў**, тапограф **Алег Белячэўскі**. Кіруе аддзелам **Яўген Кінаш**.

Вось і цяпер Аляксей Хмарэнка расказвае, што ўзяў білеты дзіцяці ў цырк, але вымушаны адмяняць сямейныя справы, таму што праца – гэта важна, неадкладна і патрэбна. Пры гэтым сем'і не крыўдзяцца, бо ведаюць, што, калі бацька задаволены сваёй працай, ён шчаслівы.

Чым жа займаюцца геолагі?

Па-першае, гэта разведка пляцовак для будаўніцтва новых падземных сховішчаў газу, а таксама кантроль за тымі сховішчамі, якія ўжо існуюць.

На сённяшні дзень у Беларусі эксплуатуюцца тры падземныя сховішчы газу. Гэта Асіповіцкае, Прыбугскае і Мазырскае. На кожнае з іх у геолагаў есць пэўная "справа". Гэта папкі дакументаў, у якіх падрабязна апісаныя работы, якія праводзіліся ў той ці іншай свідравіне ад яе стварэння. Першыя запісы зробленыя яшчэ ад рукі. У гэтым ёсць элемент гісторыі. Сучасныя дакументы, зразумела, друкуюцца на прынтары, але ад гэтага ў геолагаў адказнасці не меней.

– Праца геолага – гэта, у першую чаргу, праца камандная, – расказвае Яўген Кінаш. Бо нашы памылкі абыходзяцца вельмі дорага. Тут часам не ведаеш, што на паверхні робіцца, а геолагам трэба зразумець, якія працэсы адбываюцца ў зямлі на глыбіні 1300 метраў, а менавіта на столькі ўглыб буравіца нашы свідравіны.

Калі ідзе гаворка пра разведвальнае бурэнне, то геолагі ацэньваюць, ці падыходзіць тая ці іншая парода для таго, каб у ёй стварыць падземнае сховішча газу.

– Мы адбіраем узоры горнай пароды, вывучаем яе ўзрост, колькі ў ей знаходзіцца солі ці іншых выкапняў, праводзім розныя разлікі.

Падчас нашай сустрэчы геолагі з запасаў дасталі граніт, мармур, соль, нейкія вапнякі і распавялі, што граніт – у часовых рамках самы стары выкапень, а вось у зямлі, у некаторых выпадках, можа захоўвацца бліжэй за ўсё да паверхні. Напрыклад, як у Мікашэвічах, дзе яго здабываюць адкрытым спосабам. А соль, хоць і лічыцца маладым выкапнем, можа залягаць у зямлі на глыбіні да 800 метраў.

Падземныя сховішчы газу з'яўляюцца своеасаблівымі акумулятарамі прыроднага газу. Летам яго спажываецца менш. А зімой у халады можа спатрэбіцца значна больш, чым запланавана. Сховішча дазваляе стабілізаваць пастаўкі газу спажыўцам і зрабіць гэты працэс няспынным.

– У летні перыяд мы газ туды запампоўваем, зімой адбіраем. Таму праца ў геолагаў ёсць заўсёды.

Яшчэ адзін накірунак дзейнасці – гэта бурэнне свідравін у адкладаннях солі.

Маладзечанскае ўпраўленне буравых работ супрацоўнічае з арганізацыяй "Мазырсоль". І менавіта пры дапамозе маладзечанскіх спецыялістаў здабываецца тая соль, якая трапляе да нас на стол.

– Мы разведваем для "Мазырсолі" месцазнаходжанне солі, якая прыдатная для выкарыстання ў ежу, а яны за гэта аддаюць нам ужо размытыя падземныя рэзервуары, якія мы пераводзім у эксплуатацыю.

Маладзечанскія геолагі – гэта выдатныя лыжнікі, шахматысты, баскетбалісты. У кабінеце захоўваюцца медалі і дыпломы.

– Спорт – гэта выдатна. Мы заўсёды з задавальненнем прымаем удзел у спаборніцтвах, турзлётах, – прызнаюцца геолагі.

Нягледзячы на тое, што ўпраўленне буравых работ месціцца ў Маладзечне, у нашым рэгіёне свідравін няма.

– Няма ў Маладзечанскім раёне ні солі, ні нафты, ні месцаў, якія б падыходзілі для захоўвання газу.

А на пытанне, што ж ёсць у Маладзечне, геолагі адказалі – мінералка і самыя лепшыя ў краіне геолагі.

УНП 600066526

**Філіял "Маладзечанскае ўпраўленне буравых работ" (МУБР):**




Начальнік філіяла – Грынь Аляксандр Анатольевіч, тэлефон прыёмнай: + 375176-**76-02-49**

Асноўныя функцыі:

- ☑ Разведванне і эксплуатацыйнае бурэнне свідравін з мэтай выяўлення геалагічных структур для стварэння падземных сховішчаў газу.
- ☑ Будаўніцтва эксплуатацыйных свідравін на дзеючых ПСГ і іншых свідравін.
- ☑ Правядзенне прамыслова-геафізічных і прастрэлачна-выбуховых работ на свідравінах усіх прызначэнняў.
- ☑ Правядзенне спецработ па электрахімічнай абароне магістральных газаправодаў і капітальны рамонт свідравін.




# Как потребители электроэнергии расплачиваются за безучетное потребление

**Постановлением Министерства энергетики Республики Беларусь от 29.01.2016 года №5 утверждена Инструкция о порядке перерасчетов (расчетов) за потребленную электрическую энергию (мощность) в случаях ее самовольного (бездоговорного), безучетного потребления и при иных нарушениях в работе средств расчетного учета электрической энергии (мощности).**

Согласно Инструкции, сумма причиненного энергоснабжающей организации ущерба либо недополученной стоимости электрической энергии определяется исходя из расчетного количества электрической энергии, использованной потребителем за период перерасчета и тарифа на электрическую энергию для данной группы потребителей. Величина потребления электрической энергии определяется по номинальному току вводного коммутационного аппарата (например автоматического выключателя), при условии сохранности пломб энергоснабжающей организации или допустимого длительного тока фазных проводов (жил кабеля), которые использованы в схеме самовольного подключения к электрической сети. То есть, расчетная величина потребления электроэнергии зависит только от пропускной способности коммутационных аппаратов (автоматических выключателей и др.) и проводников, использованных при подключении электроприемников и не зависит от мощности непосредственно подключенного электрооборудования. Таким образом, при подключении в самовольно смонтированную до прибора учета электроэнергии штепсельную розетку энергоемкой стиральной машины или светильника с энергосберегающей лампой при выявлении данного нарушения сумма ущерба по акту будет одинаковой!

Рассмотрим ситуацию, когда у бытового потребителя выполнено однофазное подключение электроустановок алюминиевыми жилами сечением 2,5 мм². Согласно инструкции, расчетная величина суточного потребления электрической энергии будет равна произведению трех величин: времени работы электроустановок в течение одних суток (принимается равным 24 часам), расчетной мощности и коэффициента использования мощности (принимается равным 0,5 в случаях самовольного потребления электрической энергии). Таким образом, при самовольном потреблении электрической энергии такому бытовому потребителю за месяц придется оплатить около 1500 кВт·ч по тарифу, обеспечивающему полное возмещение экономически обоснованных затрат на оказание услуг энергоснабжающей организации, что составит на текущий момент более 270 рублей. Расчет суммы ущерба по безучетному потреблению производится со дня последней проверки системы учета, а в случаях выявления скрытого подключения в пределах срока исковой давности (3 года). При условиях приведенных выше сумма ущерба за 3 года составит около 10 тысяч рублей.

Все начисленные суммы по нанесенному энергоснабжающей организации ущербу при уклонении бытового потребителя от добровольной оплаты будут взысканы через суд.

Персоналом РУП «Минскэнерго» филиал «Молодечненские электрические сети», на правах непосредственных представителей энергоснабжающей организации, регулярно проводится рейдовая работа по контролю за соблюдением договорных обязательств потребителями электроэнергии (абонентами). Также с учетом анализа и применения специализированного программного обеспечения ведется целенаправленная работа по выявлению непосредственно фактов хищений электроэнергии. В филиале создана специализированная бригада, которая укомплектована транспортом, средствами связи, необходимыми приборами и приспособлениями, а также фото- и видеокамерой для фиксации фактов хищения электроэнергии.

За 2017 год по зоне обслуживания филиала «Молодечненские электрические сети» проведено более 700 рейдов по выявлению фактов хищения электрической энергии, составлено около 700 актов на объём ущерба 2,1 млн кВт•ч на сумму более 380 тысяч рублей.

Следует отметить, что согласно статьи 20.10. Кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях самовольное подключение электроприемников (хищение электроэнергии) влечет наложение штрафа в пятикратном размере суммы причиненного ущерба.

Для исключения подобных случаев обращаем внимание на необходимость граждан неукоснительного соблюдения действующего законодательства в области снабжения электрической энергии и взятых обязательств по заключенным договорам электроснабжения!

УНП 100071593



Валеры Анісенка перад спектаклем паабяцаў, што гэтай працай пачынаецца доўгая дарога супрацоўніцва з Мінскім абласным драматычным тэатрам.

# “Я дрэнны дырыжор. У мяне няма сяброў у мастацтве”...

МАЛАДЗЕЧНА

**26 лютага ў Мінскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм’ера спектакля новага мастацкага кіраўніка тэатра заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Валерыя Анісенкі.**

Спектакль-споведзь, гаварылася ў афішы. Монаспектакль пра жыццёвы шлях знакамітага дырыжора **Міхаіла Каца**.

Аднак спектакль не толькі пра музыку, пра дырыжора, пра мастацтва.

Гэты спектакль пра тых, хто робіць сваю працу сумленна, хто аддаецца ёй на ўсе 100 працэнтаў, пра тых, для каго работа становіцца сэнсам жыцця. Хто не церпіць халтуры, падману. Гэта гісторыя пра геніяў. І не важна, гаворка пра геніяльнага мастака ці музыканта, спартсмена ці архітэктара.

– Крывадушнасць і фальш разбуралі ўсё... Вучыцца не жадаюць. Усе ведаюць і ўсе ўмеюць. Марныя лёсы... павінны цярпець выкрутасы нейкага маэстра... У іх, можа, дзеці хворыя, і бацькі старыя. Ім – дадому, ды на халтурку... Добры дырыжор адпусціць праз дзве гадзіны. А я – дрэнны дырыжор! У мяне няма сяброў у мастацтве. Я бязлітасны ля пульта... бязлітасны!

Кансультаваў Валерыя Анісенку **Рыгор Сарока**.

Яны пазнаёміліся тут, у Маладзечне.

– Такія людзі, як Рыгор Сарока, калісьці будавалі палацы, якія дайшлі да нашых дзён, такія людзі, як ён, – гонар краіны, – сказаў Валеры Анісенка пасля спектакля.

А сам Рыгор Сямёнавіч, калі дзяліўся ўражаннямі ад спектакля, сказаў:

– Дырыжоры так сябе не хваляць. І не размаўляюць так многа. Дырыжор размаўляе са сваім гледачом пры дапамозе дырыжорскай палачкі. 30 сакавіка, дарэчы, у філармоніі адбудзецца вялікі канцэрт майго аркестра. Вось там можна параўнаць драматычны спектакль з сапраўдным дырыжыраваннем. Але спектакль харошы, шмат чаго аўтар заўважыў. Я гэты спектакль паказваў бы маладым дырыжорам у якасці падручніка, як трэба кіраваць аркестрам.

– Іграе музыка, дырыжор на сцэне. І тут паветра разразае гук мабільнага тэлефона. Ён раскалоў аркестр напалову. І не сціхае. Звоніць і звоніць!

Знаёма кожнаму, так?

Спектакль трэба глядзець таму, што такіх момантаў, дзе можна пазнаць сябе, у ім многа. Спектакль трэба глядзець таму, што ад рухаў Валерыя Анісенкі немагчыма адвесці вачэй. Спектакль трэба глядзець яшчэ таму, што з табой акцёр гаворыць наўпрост са сцэны:

– Ну, што вы седзіце з вачыма марожанай рыбы? Вы калі-небудзь кахалі?

Так, крыўдна. Але, магчыма, якраз пасля такіх слоў захочацца ўключыць “Кармэн-сюіту” і ўспомніць, што ты кахаў і не раз стаяў перад выбарам, як трэба зрабіць правільна.

– Спектакль пра чалавека, які не зламаўся, – сказаў пасля акцёр **Алег Чэчанеў**.

І калі адкінуць непрыемныя водгукі. А былі і такія, маўляў, тэкст акцёр не ведаў, тэхніка падводзіла, канец спектакля змазаны, а проста паверыць акцёру, рэжысёру, драматургу і дырыжору, то...

Я не ведаю, што будзе, але паспрабаваць варта. Праўда.

**Наталля ТУР.**
**Фота Наталлі ТУР.**





26 лютага ў Мінскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм’ера спектакля “Дырыжор” . Спектакль пра мастацтва, музыку і жыццё.

# Юры Церабун: “Калі рыхтаваў выставу, адчуваў, што адказны перад самім Юрасём Герасіменкам”



Юрась Церабун (справа) разам з Рыгорам Сарокам.



Алена Кучко кветкі падарыла жонцы мастака, а самому Юрасю Церабуну пашыла торбачку – “такую ж сціплую, як і сам мастак”.

МАЛАДЗЕЧНА

**21 лютага, у Дзень роднай мовы, у Палацы культуры адкрылася выстава Юрася Церабуна “Падарожжы з мастаком”.**

Юрась Церабун прысвяціў яе свайму сябру, знакамітаму маладзечанскаму мастаку Юрасю Герасіменку-Жызнеўскаму.

На выставе – графічныя замалёўкі тых беларускіх мясцін, якія ўбачылі двух мастакоў, двух Юрасёў. Выстава прысвечаная агульным падарожжам, вандроўкам па самых жывапісных мясцінах нашай Беларусі.

На ўрачыстым адкрыцці Юрась Церабун сказаў, што падрыхтоўка выставы далася яму не проста:

– Я хваляваўся, быццам адчуваў адказнасць перад самім Юрасём. Я падымаўся ноччу, гутарыў з Юрасём, перажываў, як атрымаецца.

Юрась Герасіменка-Жызнеўскі казаў калісьці свайму сябру, што той як графік мусіць прапрацоўваць кожны квадратны сантыметр працы.

– Адзіная просьба, – працягнуў Юрась Церабун, – увекавечыць памяць вядомага маладзечанца, зрабіць на доме, дзе жыў мастак, мемарыяльную дошку.

Старшыня праўлення фонду Міхала Клеафаса Агінскага **Рыгор Сарока** паабяцаў, што дошку ўсталююць.

Шмат цёплых слоў сказаў Рыгор Сямёнавіч у адрас Юрася Церабуна. І пра тое, што сціпласць – гэта хоць і добрая якасць, але прыніжаць сябе не варта.

– Каб спазнаць Беларусь, каб яе зразумець. Яе ўтульнасць, невялікасць, дастаткова глянуць на выставу. Бачна, што гэтыя працы напісаныя цёпла, з любоўю. Мастак не проста прыехаў на прыроду, зрабіў нейкі накід, а потым намаляваў штосьці, ён жыў там. Ён жыў сярод козачак, бярозак, кветачак. Таму ўсе працы настолькі натуральныя і цёплыя.

Было шмат добрых слоў у адрас мастака. І ад мастака **Міколы Аўчыннікава**, і ад дырэктара дзіцячай школы мастацтваў **Уладзіміра Яцыновіча**.

Але пра мастацтва гаварыць справа няўдзячная. Трэба атрымліваць асалоду ад яго, думаць пра яго, спрабаваць зразумець. Тым больш, што выстава працуе да 4 сакавіка.

**Наталля ТУР.**

# “Яна ляжала на зямлі і цалавала”

## Выстава ўнікальных здымкаў з архіва роду Бароўскіх пачала працу ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Адкрыццё адбылося ў пятніцу, 23 лютага, у выставачнай зале імя Сілівановіча.**



Здымак з сямейнага архіва Бароўскіх. Злева Зоф’я з лукавецкіх Бароўскіх (мама Сафіі Бароўскай, што цалавала зямлю ў Юнцавічах, і бабуля Катажыны, што даслала фотаздымкі Канецкаму), невядомы, Казімір Бароўскі і Міхаіл (з шапкай), яго брат Аляксандр з Юнцавічаў, двое невядомых.

– Проста не верыцца, што давялося на сваe вочы бачыць такі скарб, – падзяліўся ўражаннямі наведнік **Алесь Раткевіч**, які прыехаў на выставу з Чысці. – Гэтыя людзі перажылі прыход саветаў, у іх усё адабралі, прымусілі па свеце катацца. Жыццё было пад пагрозай, але хапіла мудрасці захаваць не дарагія рэчы, а саму гісторыю!

Старшыня вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў **Дзяніс Канецкі** ўпэўнены, што атрыманыя здымкі Вілейшчыны першай паловы 20 стагоддзя былі марай любога краязнаўцы.

Год таму краязнаўца спрабаваў перапісвацца са спадчынніцай роду **Сафіяй Бароўскай**, што жыла ў Польшчы. Але жанчына ўжо пайшла з жыцця, а ў перапіску ўступіла дачка **Катажына**.

Фотакарткі паказваюць вельмі розныя бакі тагачаснага жыцця. Мы бачым сямейныя партрэты, варажбу ў салоне, паляванне, як панскія і сялянскія дзеці разам гушкаюцца на арэлях і як Казімір Бароўскі кантралюе сплаў лесу па Віліі. Уборы, прычоскі і інтэр’еры хаваюць дэталі, пра якія можна разважаць і ўяўляць, як і чым жылі гэтыя людзі.

Былы дырэктар музея **Сяргей Ганчар** падзяліўся тым, што даведаўся падчас вывучэння шляхетных родаў Вілейшчыны. Ніколі не адасабляліся ад простых людзей, былі гатовыя дапамагчы. А галоўнае, што былі сапраўднымі гаспадарамі на зямлі, укаранялі ўсе навінкі сельскай гаспадаркі. І з ручной дойкі мелі такі аб’ём малака, які і цяпер не заўсёды дасягаюць з адмысловай апаратурай.

Ганчар распавёў пра цёплыя водгукі “пра паноў” прабабулі віляйчанкі **Святланы Макарэвіч**, якая працавала ў Бароўскіх пакаёўкай. Мы папрасілі жанчыну падрабязней расказаць гэту гісторыю.

Прабабуля **Марыля Ясюкевіч** жыла пры панскім двары ў Юнцавічах. Яе муж служыў у стражніцы ў Альковічах, але яго лёс пасля 1939 года невядомы.

– Часта расказвала, што хаця і служылі, але заўсёды ў сям’і былі і адзетыя, і накормленыя. На Каляды паны ставілі для ўсіх ёлку, падарункі дарылі і дзецям служак. А пасля саветаў жылі кутам – адна сям’я займала кут у доме. Збіралі мерзлую бульбу. Яшчэ пры панах дачка Марылі, мая бабка **Ядзя**, добра вучылася і спявала, дык Бароўскія хацелі адправіць на навуку ў Варшаву.

Аднак лёс Ядзі склаўся інакш пасля 1939 года. Яна рана выйшла замуж, у канцы вайны муж разам з іншымі салдатамі апынуўся ў Польшчы. Ядзя засталася адна з двума дзецьмі. Хаця муж клікаў да сябе, не пусцілі. Каб больш зарабляць, часта здавала кроў і стала ганаровым донарам, працавала свінаркай, была дэпутатам Вярхоўнага Савета, атрымала ордэн Леніна.

Святлана памятае, як аднойчы Сафія Бароўская прыязджала на Вілейшчыну:

– Ішла туды, дзе быў маёнтак у Юнцавічах, пасля пачала бегчы, хоць і ў сталым веку. Як убачыла месца, дзе стаяў маёнтак, упала, ляжала на гэтай зямлі і цалавала. Узяла жменьку ў хустку, каб завезці ў Польшчу.

Пасля прагляду здымкаў героі ўяўляюцца вельмі блізкімі. Адчуць гэта на сабе можна ў выставачнай зале да 7 сакавіка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**



Былы дырэктар музея Сяргей Ганчар шмат вывучаў гісторыю маёнткаў Вілейшчыны і падзяліўся ведамі на адкрыцці.



Старшыня вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў Дзяніс Канецкі перапісваўся са спадчынніцай роду Бароўскіх, і яна даслала краязнаўцу фота з сямейнага архіва.



Святлана Макарэвіч.




Схема маёнтку ў Юнцавічах. Рысунак Анатоля Капцюга.



Пасля адкрыцця многія наведнікі дзяліліся тым, наколькі ўражвае маштаб знаходкі.

# "Зваліся не Беларусь, а Крэсы"

## Жыхар Мядзельшчыны – пра жыццё рэгіёна да Другой сусветнай

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 5, 7, 8.*

МЯДЗЕЛ

**Успаміны Часлава Лявіцкага, што жыў у Кабыльніку на Мядзельшчыне, запісаныя мной у жніўні 1999 года.**



Фота saratov-tr.gazprom.ru.

Будаўніцтва газаправода Саратаў-Масква.

"У 1939 годзе трапілі ў палон. Ішлі з сябрам па ўзлеску, а тут раптам немцаў дзве ці тры брыгады з аўтаматамі. Вывелі нас з узлеску, аж там ужо тысячы чалавек стаяць на полі з нашай дывізіі. Нас адразу ў турму пасадзілі за тое.

### Немцы паважалі польскіх жаўнераў

Аднак, трэба сказаць, польскіх ваяк немцы паважалі. Потым Гітлер нават прыслаў аркуш вахману, дзе напісаў: "Мне польскага жаўнера і маё ўзбраенне – на ўвесь свет пайду і заваюю". Вахману, нямецкаму ахоўніку, было загадана па картачках даць польскаму палоннаму трохі цукру, хлеба, мяса. А ў хатах вахман, акрамя таго, ці замкнёная жалезная рама, правяраў, ці чыстая пасцель.

Французаў прыгнаў пазней. Разам з намі працавалі ў гаспадара на полі. Гітлер жа даў па французскай граніцы адразу пасля Польшчы. А ў Францыі была пастаўленая ля нямецкай граніцы лінія Магеноты, што на 25 гадоў была забяспечаная рознай прадукцыяй, амуніцыяй. Лінія Магеноты ў зямлі так была пабудаваная, што зверху ні машыны, ні артылерыя, ні самалёты нічога не разбіваюць. Гітлер даў – нічога не разбіў і абышоў на Бельгію. А тая слабенькая была, як і Польшча. Адзенне такое ж у вайскоўцаў, як і ў палякаў. Толькі кутасікі на фуражках, матузок такі чорненькі прычэплены. За суткі разбіў Бельгію і прывёз на працу бельгійцаў. Зайшоў праз Бельгію ў Францыю і прывёз французаў – па пярсцёнкаў на руках і шакаладу поўныя пляцакі.

А рускія як прыйшлі, то цяжка ім было. Не паважалі іх немцы. Кідалі "кацюшы". Ішлі ў палон. Калі іх прывялі да нас, як мы былі ў лагеры, то рускія сказалі: "О, хоць голад у Расеі, але нешта ўкрадзеш, прынясеш, жменьку атрымаеш за працадзень. Свабода! А тут гума і гума. Каб ведалі, не пайшлі б у палон, ваявалі б".

– А дзе вы працавалі ў Германіі?

– Адразу працаваў на гаспадара ля Гумбінена ў Прусіі – горад быў за 60 кіламетраў ад граніцы польскай і літоўскай. Гаспадар Кумкэйн, хутар Прэйхшад зваўся. На хутары прарабілі да 41-га. Я пры каровах быў. Уставаць мусіў у ночы і з немкай даіць карову. А пакуль усё спарадкуеш, то ўжо і вечар. Усё па гадзінніку ў немцаў было распісана: калі абед, дык роўна гадзіна. Напрыклад, на поле паедзем браць снапы ці канюшыну. Да абеду застаецца дзесяць хвілін, усё роўна каня адварочваем, едзем на поле, ускідваем дзесяць снапоў ці пару пластоў. Прыйшоў час – кідай усё! І так вечарам да шасці гадзін.

### Хоць пад'еўшыя, але палонныя

А ў 41-м сабраліся дамоў. Хоць у гаспадара былі пад'еўшы, але палонныя. Ты ж паганы. Паехаў, напрыклад, на кані па вугаль альбо малако павёз. Прыехаў – адразу пытаюцца: "Нацыі якой?" Паляк узлез немцу на дарогу – ужо табе гумы. Ты ж бясправны. А тут другі, хто паўцякаў, лісты прыслалі, што граніца Германіі і Беларусі слабая і што смела можна ісці. Упяцёх уцякалі. Разам з намі немец уцякаў.

– Ён быў сын гаспадара?

– Не. Наняты. Так як парабак. Гэты немец любіў з палоннымі сябраваць. Малады хлопец часта далучаўся да нас на полі. А з палоннымі ў Германіі сябраваць было нельга. Бо немцы лічылі заразным замежнага чалавека. Дык яму раз далі 37 марак штрафу, а пасля тры месяцы адседзеў.

У Германіі нават дзяўчат каралі, каторыя з намі заходзілі. Немку тады на шэсць месяцаў садзяць і галаву абстрыгуць, што паганая ўжо, з палонным жыла. А палонных, калі з немкай заняўся, вешалі. Устроены быў электрычны слуп, уздзвіжка жалезная... Нас збіраюць тады пад канвоем вахманы і прыводзяць паказваць, як паляка будуць вешаць за немку.

– А чаму немец уцякаў разам з вамі?

– Уцякаў у Расею. Ахвоты набраўся, што ў Саветах, як напісалі нашы, дазвалялася ружжо браць і паляваць. Дык ён кажа: "На Сібір паеду. Буду план выконваць і паляваць". Набраў яды, мапу ўзяў. Аднак нас злавілі пры граніцы. Немцы на Расею сабраліся ісці ваяваць і ўжо былі ўскрапчылі граніцу каля Сувалак.

Немца адразу адлучылі. А нас пасадзілі ў бункер. Затым адправілі ў лагер. Тры месяцы пад армію цяпер трэба было адрабіць. Лагер у лесе знаходзіўся, непадалёку ад горада Прэйс-Эйляў у Прусіі. Там у холад капалі камень па калена ў вадзе. Не выканаў план – пыткі.

### "Калі слаба б'еш, кладзіся – і цябе будуць"

Аднойчы хацелі двое палонных уцячы ноччу з лагера. Пакінулі шынялькі каля ям, дзе жвір для дарог бралі, і дамовіліся там сустрэцца. Уцяклі праз дрот. А святло ўключанае, вахман вакол лагера ходзіць. Таму немцы хутка агледзеліся. Як пачалі нас ганяць: "Чаму не сказалі, як яны ўцякалі?" Нарабілі з калючага дроту вітушак, пакідалі пад ногі і пачалі нас голых ганяць.

Калі прывялі ўцекача, то ўсім загадалі біць яго голага. А калі слаба б'еш, кладзіся і цябе будуць.

Крыху пазней працавалі ў начальніка лагера, які меў гектар зямлі, карову. Адпрацавалі гады са тры. А калі ён памёр – зноў мы ўцякалі. Але знайшлі. Потым каля Кёнігсберга адбываў кару.

– Да якога года давялося ў нямецкім палоне быць?

– Вызваліла Расея ў 45-м вясной. Немец не даваў палонным заставацца, гнаў перад сабой. Я быў палонны і яшчэ адзін чалавек, які з-пад Віцебска літоўцамі вывезены. Узялі каня, набралі адзення, ежы. Паехалі да рэчкі, што бліжэй да фронту. Тут гара, тут рэчка. Падкапалі гару ад рэчкі і зрабілі бункер. Паставілі слупы, накат. Нас ніхто з немцаў не агледзеў, і гэтак мы засталіся.

– А што было адразу пасля вайны?

– Сабралі нас і ў 45-м павезлі дамоў. У Вільні я злез. Кажу: "Тут брат мой". А мяне не адпускаюць. Сказалі, што гэта раней была Віленская вобласць, а цяпер Маладзечанская. Прыехалі ў Маладзечна. Замест таго, каб адправіць дамоў, прычапілі платформу – і аж да Саратава.

Прывезлі на поле, разгрузілі. На вышку ўзлез нейкі палкоўнік ці генерал і вычытаў: "Вашы сёстры, браццы, бацькі – усе працуюць у калгасах, на будоўлі. І вы мусіце на пяць год план паставіць: пабудаваць газаправод Саратаў-Масква на 110 кіламетраў". Ну, дык пяць гадоў і рабіў.

### Замест Часлава запісалі Вячаславам

– Потым адразу дахаты адпусцілі?

– Прыехаў дамоў… У калгасе брыгадзірам паставілі. 24 двары ад Рыдуплі, Мельнікаў і да Глыбокага Ручая ўваходзілі ў маю брыгаду. Пабудаваў сабе хату. У той час Беларусь крэпкай была, з Амерыкай раўняліся. Такія фермы былі тысячнікі. Не было дзе мяса здаць. У мяне самога дзве каровы дойныя. Здаць няможна. Ніхто не прымаў, бо загружаныя базы былі.

Цяпер людзі маркі палучаюць, што мы адрабілі немцу. А я нічога дайсці не магу. Як дапрошвалі мяне ў Расеі, замест Часлава Часлававіча запісалі Вячаславам Вячаслававічам. На допыце сказалі, што Чаславаў у нас няма, а ёсць Вячаславы. Калі перачытваў, што там напісана, то нічога не разумеў. Я ж у польскай школе вучыўся. Па-французску ў Польшчы вучылі, а па-руску не. У архіве ўсё знайшоў, дзе ў гаспадароў рабіў і што рабіў.

А мне кажуць – гэта не ты, а другі Часлаў. І што ты дакажаш? Тады сказалі, каб даў праз суд двух сведкаў, з якімі працаваў у палоне. А яны пазміралі.

Цяпер у другі раз напісаў, што ўсё-такі крыўдую. І як даказаць, што гэта маё імя? У лагерах жа імён не было. Літара Р на грудзях, што паляк, а на плячах твой нумар".

**Запісаў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**

● КАЛЯНДАР

### 2 САКАВІКА

**100 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Бачылы** (1918 – 1983), беларускага паэта, драматурга, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**95 гадоў** з дня нараджэння **Барыса Уладамірскага** (1923 – 1991), беларускага акцёра, заслужанага артыста Беларусі. Зняўся ў кінафільмах "Чырвонае лісце", "Першае выпрабаванне", "Бацька", "Атланты і карыятыды", інш. З лепшых роляў у беларускім рэпертуары: Салавей ("Салавей" З. Бядулі), Яўхім ("Людзі на балоце" І. Мележа), Крыніцкі ("Паўлінка" Я. Купалы).

### 3 САКАВІКА

**2010.** У Вілейцы памёр **Анатоль Рогач**, выдатны краязнаўца, майстар спорту Беларусі па шашках, аўтар кнігі "Нарачанка і яе берагі". Нарадзіўся ў вёсцы Каралеўцы 1 чэрвеня 1947 года.

**100 гадоў** з часу падпісання Брэсцкага міру (Брэст-Літоўск, 1918), мірнага дагавора Савецкай Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй, паводле якога Беларусь страціла значную частку сваёй тэрыторыі.

**95 гадоў** назад (1923) Цэнтральны выканаўчы камітэт СССР выдаў пастанову аб перадачы БССР раёнаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў з пераважаючым беларускім насельніцтвам.

### 4 САКАВІКА

**1874.** На Смаргоншчыне ў вёсцы Вётхава нарадзіўся **Павел Южык**, мастак. Працаваў на Вілейшчыне. Скончыў Віленскую рысавальную школу І.Трутнева. Нейкі час выкладаў маляванне ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1939 – 1944 гадаў – выкладчык малявання ў Залескай школе Смаргонскага раёна. Памёр у 1944 годзе і пахаваны на радзіме.

### 7 САКАВІКА

**1895.** Нарадзіўся Тамаш Грыб, беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч, публіцыст. Нарадзіўся ў вёсцы Паляны, цяпер Смаргонскі раён. Адзін з аўтараў Устаўных грамат БНР, сябра Рады БНР і яе Выканкама (1918), займаў пасады міністра земляробства і міністра ўнутраных спраў. Уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. Адзін з лідараў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Быў зняволены польскімі ўладамі за беларускую незалежніцкую дзейнасць. Ад 1922 года – у Чэхіі. Скончыў філасофскі факультэт Карлава ўніверсітэта. Стварыў у Празе Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Скарыны, загадваў беларускім замежным архівам. Памёр у 1938 годзе ў Празе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# “У нас няма машыны, але затое – пяць ровараў”

## Ураджэнка Вілейкі распавяла, як жыве з сям'ёй у Даніі



Наталля і Дзмітры выхоўваюць траіх дзяцей.



Наталля з мужам Дзмітрыем.

ВІЛЕЙКА

**Наталля Лапіцкая нарадзілася ў Вілейцы. Тут скончыла мясцовую школу №3.**

Пасля атрымала адукацыю доктара ў медыцынскім універсітэце ў Гродне, крыху працавала ў сталіцы і… з'ехала ў Данію.

У гэтай краіне Наталля жыве ад 2002 года:

– З'ехаць з Беларусі вырашыла таму, што ў Даніі бачыла больш магчымасцяў для сябе. Перш за ўсё, для таго, каб павучыцца і набыць досвед па сваёй спецыяльнасці – неўралогіі.

### У Даніі няма “жывых” чэргаў

Сябар Наталлі, які вучыўся разам з ёй у Гродне, на той час працаваў у бальніцы ў Даніі. Там якраз быў патрэбны спецыяліст. Ён і падказаў сяброўцы.

Наталля прыгадвае, што ў новай краіне нічога асабліва не здзівіла. Па яе назіраннях, скандынавы вельмі падобныя да беларусаў: такія ж сціплыя, ветлівыя. У Даніі адказна ставяцца да працы, акуратна выконваюць свае абавязкі.

Ёсць асаблівасць, якая Наталлі адначасова і падабаецца, і не. У Даніі ў звычайных грамадзян няма кантактаў з чыноўнікамі.

– Напрыклад, я асабіста не магу прыйсці на прыём у Міністэрства аховы здароўя, – дзеліцца Наталля. – Магу толькі патэлефанаваць і спытаць, як там ідуць справы з маімі дакументамі. Каб атрымаць многія даведкі, трэба пісаць афіцыйны запыт у міністэрства, а пасля чакаць адказу.

І так з большасцю афіцыйных папер і дакументаў, якія звычайнаму чалавеку патрэбныя не так рэдка. Але затое нідзе не трэба стаяць у “жывых” чэргах. Проста прыйсці і забраць паперу, якая табе трэба. Што да талона да доктара, тут падобная сістэма: замовіў, прыйшоў да пэўнага часу і цябе прынялі.

### У Орхусе ўсюды можна даехаць на ровары

Самай вялікай праблемай па першым часе для Наталлі было разумець дацкую мову і размаўляць на ёй. Дацкая мае падабенства з англійскай, якую вучыла Наталля, і нямецкай. Ёсць таксама падабенства са шведскай і нарвежскай.

Наталля з сям'ёй жыве ў дацкім горадзе Орхусе. Горад вялікі – другі па велічыні ў краіне. Тут жыве каля трохсот тысяч чалавек. У мінулым годзе Орхус быў еўрапейскай культурнай сталіцай. Горад месціцца на беразе заліва Орхус-Бугд. Тут ёсць порт другі па значнасці ў краіне. Ёсць чыгунка, оперны тэатр, батанічны сад, свой універсітэт. Ва ўніверсітэце вывучаюць гуманітарныя дысцыпліны, медыцыну, тэалогію, правa, эканоміку, псіхалогію, палітычныя навукі.

У Орхусе мала шматпавярховых будынкаў. Тут невялікія вуліцы. Па словах Наталлі, усюды можна дабрацца на ровары.

– У нас нават няма машыны, – кажа мая субяседніца, – але затое – пяць ровараў на сям'ю. Да ровараў ёсць шмат розных прыстасаванняў: вазкі, дзіцячыя сядзенні. Ёсць ровары з маторчыкамі.

У старой частцы горада ёсць помнікі 13-15 стагоддзяў – гэта будынкі храмаў.

### На працу – за 60 кіламетраў ад дома

Як і жадала Наталля, у Орхусе яна змагла праявіць сябе ў медыцыне. Праўда, на сённяшні дзень з неўролага яна перакваліфікавалася ў нейрарэнтгенолага. Цяпер на працягу пяці гадоў Наталля ездзіць працаваць у розныя бальніцы. Тут з гэтым строга, кажа яна: куды размяркуюць, туды трэба ехаць.

Напрыклад, цяпер доктар працуе за 60 кіламетраў ад Орхуса. Працоўны дзень у бальніцы пачынаецца да 7:30, таму ў 6:15 Наталля ўжо сядзіць у аўтобусе.

Муж Наталлі Дзмітры – 46-гадовы беларус, ён таксама доктар. Ужо шмат гадоў працуе ў аддзяленні тэрапіі ва ўніверсітэцкай бальніцы. Дзмітры – спецыяліст-тэрапеўт і таму ў яго, у адрозненне ад жонкі, ёсць пастаяннае месца працы.

Наталля і Дзмітры гадуюць траіх дзяцей: **Ніне** – шэсць гадоў, **Аляксандру** – тры, **Елізавеце** – амаль паўтара года. Сістэма дэкрэтнага адпачынку ў Даніі вельмі заблытаная, дзеліцца Наталля. Сума, якую атрымлівае жанчына, нарадзіўшы дзіця, залежыць ад многіх паказчыкаў: ад працы, стажу і іншых дробязяў.

У дэкрэтны будучая маці можа сысці за два месяцы да родаў толькі тады, калі яна працуе на дзяржаўнай пасадзе. Напрыклад, доктар, як Наталля. Калі ж цяжарная жанчына працуе на прыватнага прадпрымальніка, яна сыходзіць за месяц да родаў. Пасля нараджэння дзіцяці маме даецца год адпачынку.

У адпачынку да родаў жанчына атрымлівае свой звычайны заробак. Першыя шэсць месяцаў пасля нараджэння дзіцяці – таксама. І апошнія паўгода – так званыя “дзіцячыя грошы”. Іх сума залежыць ад заробку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Бацька Наталлі, Яўген, быў вядомым на Вілейшчыне журналістам.



Наталля на даху свайго дома.

ТЭМА НУМАРА

# Што неабходна ведаць пра прышчэпкі: ад чаго, калі і якія рабіць

## Адкуль у Беларусі ўсплёск коклюшу, як пазбегнуць рэакцый на прышчэпкі і якія лепш выбіраць, расказвае педыятр

**Прышчэпкі робяць выключна ад інфекцыйных хвароб. Але далёка не ад усіх, а толькі ад складаных, небяспечных, здольных выклікаць цяжкія ўскладненні. І ад інфекцый, на якія адначасова хварэе мноства людзей – напрыклад, ад грыпу.**

Дзяцей, перш за ўсё, прышчэпліваюць ад так званых дзіцячых інфекцый – коклюшу, дыфтэрыі, краснухі, адру, эпідпаратыту, поліяміэліту і іншых. Таксама ад тых хвароб, якія могуць напаткаць у любым узросце – туберкулёзу, вірусу гепатыту, слупняку.

Апошнім часам бацькі пачалі ўсё часцей прасіць адказаць на пытанні, якія тычацца вакцынацыі дзяцей першых двух гадоў жыцця. Тлумачым самыя актуальныя моманты ў гэтай публікацыі.

Так як вакцыны "АКДС" не было ад кастрычніка 2017 года, было прыпыненае правядзенне рэвакцынацыі паўтарагадовым дзецям. 21 лютага "АКДС" паступіла ў дзіцячую паліклініку, і мы запрашаем усіх дзяцей, хто не паспеў атрымаць рэвакцынацыю ў гэтым узросце. Вакцыны дастаткова, каб прышчапіць усіх дзяцей, якім яна патрэбная.

"АКДС" – прышчэпка расійскай вытворчасці, расшыфроўваецца як "адсарбаваная коклюшна-дыфтэрыйна-слупняковая.

### Чым адметная вакцына "Эўпента"

Растлумачым асаблівасці новай вакцыны карэйскага вытворцы "Эўпента". Яна ёсць ва ўсіх структурных падраздзяленнях Маладзечанскай ЦРБ.

Вакцына "Эўпента" – камбінаваная пяцікампанентная прышчэпка для прафілактыкі дыфтэрыі, коклюшу, слупняку, гепатыту В і гемафільнай інфекцыі. Яе можна выкарыстоўваць для вакцынацыі дзяцей да года, калі ў бягучым месяцы плануюцца прышчэпкі супраць коклюшу, дыфтэрыі, слупняку і віруснага гепатыту В. Вакцынацыю супраць поліяміэліту дзіця атрымае асобна вакцынай "Імавакс". Гэта пераважна тычыцца дзяцей пяці месяцаў, калі яны прышчэпленыя строга па календары прафілактычных прышчэпак Беларусі.

**У тры і чатыры месяцы дзяцей трэба прышчэпліваць супраць коклюшу, дыфтэрыі, слупняку і поліяміэліту. Для вакцынацыі гэтых узроставых груп будуць выкарыстоўваць "АКДС" і "Імавакс".**



Маленькай маладзечанцы Анюце Бартош 9 месяцаў. Яе мама Кацярына лічыць, што прышчэпкі абараняюць дзяўчынку і дазваляюць засяроджвацца на цікавых і важных рэчах. Напрыклад, вучыцца хадзіць.

### Суцэльнаклетачныя і бясклетачныя вакцыны

Бацькі часта пытаюцца, чым адрозніваецца суцэльнаклетачная вакцына ад бясклетачнай. Бясклетачныя дзеці пераносяць нашмат лягчэй. Такія вакцыны практычна не даюць тэмпературных рэакцый пасля ўвядзення, а таксама мясцовых рэакцый на месцы ўвядзення вакцыны – пачырванення, ацёкаў і ўшчыльненняў.

Да бясклетачных вакцын адносяцца:
- "Інфанрыкс" (супраць коклюшу, дыфтэрыі, слупняку);
- "Тэтраксім" (супраць коклюшу, дыфтэрыі, слупняку, поліяміэліту);
- "Пентаксім" (супраць коклюшу, дыфтэрыі, слупняку, поліяміэліту і гемафільнай інфекцыі).

Вакцыны "Інфанрыкс" і "Пентаксім" выкарыстоўваюць толькі на платнай аснове. Цана першай каля 40 рублёў, другой – каля 80.

Вакцыны "АКДС" і "Эўпента" – суцэльнаклетачныя.

### Чаму не прышчэпліваць дзяцей небяспечна

Бацькам варта разумець, што каляндар прафілактычных прышчэпак складзены не проста так. Некаторыя лічаць прышчэпкі непатрэбнымі і адмаўляюцца ад іх правядзення.

З-за адмоў ад прышчэпак у Беларусі пачалі рэгістраваць захворванні на коклюш, на яго хварэюць і ў Маладзечанскім раёне. У першую чаргу хварэюць непрышчэпленыя дзеткі, ад якіх могуць заражацца школьнікі. Таму што імунітэт супраць коклюшу да гэтага ўзросту згасае, паколькі апошні раз супраць яго ў Беларусі прышчэпліваюць у паўтара года.

**Вельмі важна, каб прышчэпкі былі ўсеагульнымі. Вялікае значэнне для эпідэміялагічнай сітуацыі мае калектыўны імунітэт.**

Калі 95-97% насельніцтва прышчэпленае, тады інфекцыйныя захворванні і не рэгіструюцца. Калі ж працэнт прышчэпленых дзяцей зніжаецца, падымаюць галаву інфекцыі, якія можна папярэдзіць дзіцячай прышчэпкай.

Адна шматдзетная мама ў Маладзечанскім раёне не прышчапіла малодшае дзіця ўвогуле, а старэйшых спачатку вакцынавала, пасля адмовілася. Малодшы падчапіў коклюш, хварэў цяжка. Перажыўшы складанае захворванне малодшага, мама прыйшла ў паліклініку даведацца, якіх прышчэпак не хапае старэйшым дзецям.

Некаторыя бацькі баяцца прышчэпак з-за ад'ювантаў і кансервантаў, якія ўваходзяць у склад вакцын. Але гэтыя рэчывы ў прышчэпках у такой мінімальнай колькасці, што не могуць нанесці шкоды дзіцяці, а ад інфекцый абароняць.

Параўноўваючы пабочныя эфекты на антыбіётыкі, якімі прыходзіцца лячыць непрышчэпленых дзяцей ад таго ж коклюшу, то становіцца зразумела, што вакцынацыя – лепшы варыянт.

### Як лягчэй перанесці прышчэпку

Ёсць агульныя рэкамендацыі, якія дапамагаюць арганізму справіцца з нагрузкай пасля правядзення прышчэпкі.

#### 1. Не эксперыментуйце з ежай

Гэта вельмі сур'ёзнае патрабаванне – не давайце напярэдадні прышчэпкі і некалькі дзён пасля яе новыя прадукты, каб не справакаваць алергію.

Калі дзіця толькі на грудным малацэ, маме напярэдадні і некалькі дзён пасля вакцыны таксама трэба прытрымлівацца гэтага правіла. Важна не ўводзіць новыя прыкормы або дакормы ў гэты перыяд, не мяняць адну сумесь на іншую.

#### 2. Не перакормлівайце дзіця

Чым меншая нагрузка на сістэму стрававання, тым лягчэй пераносіцца прышчэпка.

Нельга прымушаць дзіця есці. Толькі калі сам папросіць.

#### 3. Трымайцеся падалей ад інфекцый

Каб не правакаваць дадатковую нагрузку на імунітэт, за 3-4 дні да прышчэпкі абмяжуйце кантакты дзіцяці з іншымі людзьмі, у тым ліку дзецьмі. Лепш не гуляць у вялікім натоўпе, пазбягаць шматлюдных мерапрыемстваў, крам, грамадскага транспарту.

Ад правільнай падрыхтоўкі дзіцяці да правядзення прышчэпкі залежыць стан яго здароўя і самаадчуванне пасля вакцынацыі.

**Марыя БАЙКОВА,**
**доктар-педыятр Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 5)

## Вучым слана і ладдзю, а таксама, як арганізаваць турнір

**Давайце замацуем разуменне хадоў ладдзі і слана. Разыгрываем пазіцыі – ладдзя супраць слана, сланы супраць ладдзі і гэтак далей.**



Дзеткі вельмі любяць спаборнічаць. У гэтым ёсць і плюсы, і мінусы. Плюсы – адрэналін, добрая гульнявая практыка, элемент спаборніцтва ў педагогіцы, прычым адзнакі ставяць сабе дзеці. Перамог – значыць, малайчына. Прайграў – кепска.

Мінусы – маленькія і вялікія драмы. Як і ў любым іншым спорце, – перажыванні. Менавіта тут і пачынаецца выхаванне характару. Хтосьці пасля першых няўдач апускае рукі. І адна з задач настаўніка – падбадзёрваць усіх! І забяспечваць максімальнай колькасцю “пернікаў” (прызоў) у дзіцячых турнірах.

А цяпер абмяркуем, як жа арганізаваць турнір. Самы просты і папулярны метад – турнір па кругавой сістэме. Рысуеце таблічку і праводзіце турнір. У пачатковых дзіцячых турнірах неабавязкова трымацца пачатку і заканчэння партый па часе. Закончылася партыя – дзеці падыходзяць і гавораць вынік. Настаўнік заносіць іх у табліцу. Свабодных партнёраў садзіце за новую партыю. Ніжэй – прыклад такой таблічкі на шэсць удзельнікаў з незакончаным турнірам.

Прыгледзеўшыся, вы лёгка ўсё зразумееце і разберацеся.

| № | Участник | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | очки | место |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Петров | | 1 | 0 | 0 | | | | | |
| 2 | Иванов | 0 | | | | 1 | | | | |
| 3 | Сидоров | 1 | | | | | ½ | | | |
| 4 | Соломатов | 1 | | | | | | | | |
| 5 | Кульша | | 0 | | | | 1 | | | |
| 6 | Иванова | | | ½ | | 0 | | | | |

Можаце даць назву. Напрыклад, “Шахматны турнір 8 Сакавіка”, пазначыць месца правядзення, дату. Знізу падпішыце, хто суддзя, пастаўце пячаткі, раздрукуйце і падарыце бацькам.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## Сапернік па плэй-оф – ХК “Гомель”

МАЛАДЗЕЧНА

Першыя чвэрцьфінальныя матчы з гамяльчанамі “зубры” правядуць на выездзе 1 і 2 сакавіка. Паядынкі ў адказ адбудуцца ў Маладзечне 5, 6 і 10* сакавіка. Серыя працягнецца да чатырох перамог адной з каманд. Білеты на хатнія матчы “Дынама-Маладзечна” са зніжкай у 50% можна набыць да 28 лютага.

*Матч 10 сакавіка адбудзецца ў выпадку, калі каманды да гэтага моманту не вызначаць пераможцу ў серыі.

**Паводле vk.com/@hcdinamo-molodechno.**




Аматарская каманда з Ашмянаў упэўнена перамагае ў гэтым сезоне.

# Хакеісты: **“Перамогам радаваліся больш, каб нас заўважалі”**

АШМЯНЫ

**У мінулую нядзелю ў Ашмянах прайшоў таварыскі матч па хакеі. На гэты раз камандзе з Ашмянаў супрацьстаяла дружына з Дзятлава.**

Але як і 10 лютага, калі ашмянцы “разграмілі” гасцей з Мінска з лікам 10:1, дзятлаўчане не змаглі на роўных супрацьстаяць ашмянскім хакеістам. Гульня завяршылася з лікам 11:3.

Гулец каманды **Дзмітры Роўдан** расказаў “Рэгіянальнай газеце”, што перамогі былі б больш салодкімі, каб хакею ў Ашмянах надавалася больш увагі.

– Мы самі, каманда аматараў, якім амаль усім за 30 гадоў, вымушаныя сваімі сіламі заліваць каток, рамантаваць борцікі, купляць форму і ездзіць за свае грошы на спаборніцтвы. Да нас у горадзе няма нікому справы. Частка нашай каманды ездзіць трэніравацца ў Ліду, адна пяцёрка выступае на турніры ў Мінску. Так, мы абыгралі Дзятлава, яны нас запрасілі да сябе згуляць матч у адказ, а нам цяпер трэба думаць, за якія грошы гэта рабіць.

Больш аптымістычны позірк на перамогу ў варатара каманды **Сяргея Спірыдонава**.

– Працяглае марознае надвор’е, своечасовая і якасная падрыхтоўка хакейнай пляцоўкі ў квартале Будаўнікоў, дзе каманда цяпер практычна пастаянна трэніруецца, згулянасць гульцоў і нястомная падтрымка нашых заўзятараў дапамаглі нам і мы гатовыя і далей радаваць сваімі вынікамі, прыцягваючы да спорту на свежым паветры моладзь.

Моладзь, як прызнаюцца гульцы, гэта пераважна дзеці хакеістаў.

– Шкада, што мы гуляем, а на нас ходзіць глядзець моладзь з пляшкамі піва, – узрушаецца Дзмітры Роўдан.

У бліжэйшых планах ашмянскіх хакеістаў сустрэча ў адказ з камандай “Айран” у Мінску.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечанае Дзмітрыем РОЎДАНАМ.**



Нават на самаробнай пляцоўцы можна выйграваць з лікам 11:3



За гульнёй пакуль назірае падрастаючае пакаленне, але хутка і дзеці цяперашніх хакеістаў выйдуць на лёд.

## Ашмянцы вызначыліся на спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы

АШМЯНЫ

У Гродне прайшлі спаборніцтвы па цяжкай атлетыцы ў рамках Алімпійскіх дзён моладзі сярод юнакоў і дзяўчат 2001 года нараджэння і маладзейшых. Ашмянскі раён быў прадстаўлены адразу двума школамі: Гродзенскай ДЮСШ прафсаюзаў “Вымпел” і Ашмянскай ДЮСШ.

У першы дзень спаборніцтваў у барацьбу ўступілі дзяўчаты. Добры вынік паказала прадстаўніца ашмянскай каманды кандыдат у майстры спорту **Анастасія Афанасьева**, якая заняла другое месца ў вагавой катэгорыі да 53 кілаграмаў. Трэцяе месца ў вазе да 63 кілаграмаў заваявала **Паліна Буйвід**. З такім жа вынікам, але ў вазе звыш 75 кілаграмаў, выступіла **Яна Барысевіч**. Лепшы вынік паказала каманда Гродзенскага раёна, якая набрала 96 ачкоў. Другое і трэцяе месцы – з 76 ачкамі кожная – падзялілі каманды Карэліцкага і Ашмянскага раёнаў.

Сярод юнакоў добрую фізічную падрыхтоўку і тэхніку прадэманстравалі кандыдаты ў майстры спорту **Арсен Грахоўскі** і **Вадзім Драбышэўскі**. У выніку ашмянская каманда юнакоў заняла чацвертае месца, прапусціўшы наперад цяжкаатлетаў з Гродна, Карэліцкага і Лідскага раёнаў.

Касцяк цяжкаатлетычнай зборнай Ашмянскага раёна складаецца з хлопцаў, якія вучацца ў сельскіх школах. Як адзначыў трэнер **Міхаіл Станкевіч**, заслугоўвае павагі, што настаўнікі фізічнай культуры сельскіх устаноў адукацыі прышчэпліваюць любоў дзецям менавіта да цяжкай атлетыкі.

**Аліна БЯЛІЦКАЯ, osh.by.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. Сухі чай, які заварваюць у чайніку.
5. У гэтай краіне ў 755 годзе адбылося паўстанне, падчас якога загінула каля 30 мільёнаў чалавек. Тады гэта была шостая частка насельніцтва планеты.
6. Менавіта на гэтым востраве Карыбскага мора з’явіліся грэйпфруты.
8. Вадкая празрыстая смала, якая выцякае са ствалоў хвойных дрэў.
11. Афіцыйнае інспектаванне войск камандаваннем на парадзе.
12. Укрыць з усіх бакоў, абгарнуць.
14. Яны займаюць дзясятую частку Фінляндыі.
16. З часу Другой сусветнай вайны ўсе брытанскія танкі абуладкаваныя так, каб можна было лёгка яго прыгатаваць.
18. Дыяметр савецкіх папярос быў такі самы, як ён. Мяркуецца, гэта для таго, каб можна было вельмі хутка перанастроіць вытворчасць.
19. Якая гераіня беларускай казкі “Два браты” казала так: “Ідзі, Іван-бядняк, на бераг мора, схавайся пад човен і дачакайся ночы. Прыляцяць тры мае сыны, тры вораны. Пачнуць між сабою гаварыць. Слухай іх і запамінай”.
22. Свавольнік, гарэза.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Жаласны стогн.
2. Прадстаўнікоў гэтай прафесіі часцей за іншых выкарыстоўвалі для рэкламы цыгарэт у пачатку 20 стагоддзя.
3. Гэтаму выключна тытулаванаму амерыканскаму мастаку належыць фраза: “Я спадзяюся, што мы не губляем з віду адну рэч: усё гэта пачала адна мышка”.
7. На гербе гэтага горада – выява паравоза і палова шасцярні.
9. У пачатку дня.
10. Абшар, далягляд.
12. Тэорыя і практыка перамяшчэння ў паветры на лятальных апаратах.
13. Металічны кружок, якім закладаюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра.
15. Назва спектакля Станіслава Манюшкі, які ў Віленскім тэатры афармляў Вінцэнт Дмахоўскі.
17. Бесталковы, тупы чалавек.
20. Вучэнне аб спадчынным здароўі людзей і шляхах паляпшэння яго спадчынных уласцівасцяў; выкарыстоўвалася рэакцыянерамі і расістамі, каб абгрунтаваць і апраўдаць панаванне эксплуататарскіх класаў і расавую дыскрымінацыю.
21. Сэнс, змест.

## Адказы на крыжаванку з №8

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Жазло. 3. Маятнік. 5. Жаніх. 6. Вязьмо. 8. Выслуга. 9. Ачко. 13. Прашчур. 14. Жывапіс. 15. Жвір. 19. Ацёл. 20. Мафія. 23. Нераст.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Прошва. 4. Ахвота. 5. Жолуд. 7. Казахстан. 10. Вытворца. 11. Гродна. 12. Зубы. 16. Аграном. 17. Махляр. 18. Радыяцыя. 19. Афіцыянт. 21. Вавёрка. 22. Выраз.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА САКАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Казка пра чырвоную стужачку**” 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

10 сакавіка – у 12:00

**У ДНІ ВЯСЕННІХ КАНІКУЛАЎ**

“**Казка пра чырвоную стужачку**” 6+ (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*

27 сакавіка – у 10:30

“**Тайна вострава людаедаў**” 6+ (пірацкі трылер у адной дзеі), *Дамір Салімзянаў*

28 сакавіка – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Вакзал на траіх**” 16+ (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*

4 сакавіка – у 17:00

**СПЕКТАКЛЬ ПРЫСВЕЧАНЫ МІЖНАРОДНАМУ ЖАНОЧАМУ СВЯТУ**

“**Афінскія вечары**” 12+ (камедыя ў двух дзеях), *Пётр Гладзілін*

9 сакавіка – у 17:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Час сэканд-хэнд**” 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*

17 сакавіка – у 17:00

**ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ г. Маладзечна**

**ГАСТРОЛІ ВЕЛІКАЛУКСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА (РФ), ПРЫСВЕЧАНЫЯ СУСВЕТНАМУ ДНЮ ТЭАТРА**

“**Пані Мяцеліца**” 3+ (казка для сямейнага прагляду), *Павел Сяргееў*

21 сакавіка – у 14:00,
22 сакавіка – у 11:00

“**Ваўкі і авечкі**” 12+ (п’еса ў 2-х дзеях), Аляксандр Астроўскі

21 сакавіка – у 19:00

“**Старэйшы сын**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксандр Вампілаў*

22 сакавіка – у 18:00

**ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ ТЭАТРА**

“**Плачу наперад**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*

27 сакавіка – у 19:00
28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by
www.theatre-modt.by



## ГАРАСКОП 2-8 САКАВІКА



**АВЕН.** Калі раптам пагоршыцца настрой ці ўзнікне дэпрэсія на пустым месцы, то пачытайце любімую кнігу ці перагледзьце фільм, які падабаецца. Гэта пойдзе вам на карысць.



**ЦЯЛЕЦ.** Любая дзейнасць вам супрацьпаказаная, вы рызыкуеце прыняць вельмі шмат няслушных рашэнняў або нарабіць яшчэ нейкіх, не спрыяльных для сябе, памылак, што ў выніку прывядзе да краху ўсяго запланаванага і створанага. Дазвольце падзеям развівацца самім па сабе і не старайцеся плыць супраць цячэння. Так вы зэканоміце ўласныя сілы і зможаце пазбегнуць шматлікіх няўдач, а вынік вас прыемна здзівіць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы на вышыні. Нават калі хтосьці лічыць, што вы не маеце рацыі і робіце не так, як трэба было б, – для вас не мае ніякага значэння чужое меркаванне, бо ёсць свая галава на плячах, якая кажа, што вы робіце ўсё так, як трэба. Такая ўпэўненасць у спалучэнні з добрай энергетыкай дазволіць вам многіх людзей перацягнуць на свой бок. А адсюль і вынік – усе справы пойдуць як па масле.



**РАК.** Цяпер пастарайцеся максімальна вызваліць сябе ад усялякіх спраў і адпачыць, бо хутка вас чакае новы парыў энергіі і дзейнасці, для чаго запатрабуюцца вашы сілы.



**ЛЕЎ.** У жыцці ўрываюцца новыя падзеі, якіх вы нават не чакалі. Спрыяльны перыяд для любых пачынанняў, калі іх мэта – унясенне ў ваша жыццё гармоніі і спакою. Добры час для правядзення розных сустрэч з сябрамі, сваякамі і сямейных мерапрыемстваў. Любыя справы ў гэты перыяд прынясуць вам масу задавальнення.



**ДЗЕВА.** Часцей праяўляйце разуменне, мяккасць, чуласць. Развівайце ў сабе інтуіцыю, яна дазволіць вам разабрацца ў шмат якіх заблытаных справах. І смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды вас не павінны спыняць.



**ШАЛІ.** Вы жывяце ў сваім уласным свеце, поўным перажыванняў і дэпрэсіўнага стану. І не бачыце ў ім цудоўнага і светлага, бо любыя эмоцыі жорстка падаўляеце. Мяняйце светапогляд, выбірайцеся з абалонкі, і ўсё якасна зменіцца.



**СКАРПІЁН.** Вы актыўныя, усё ў вас у руках будзе проста кіпець. Нічога не адкладвайце ў далёкую скрыню. Калі што вырашылі зрабіць, то рабіце цяпер. Лёс вам спрыяе, і ўсё складзецца ўдачна.



**СТРАЛЕЦ.** Магчыма вам захочацца павысіць свой прафесійны ўзровень – калі ласка, для гэтага цяпер ёсць усе магчымасці. Перыяд спрыяльны для актыўнай дзелавой дзейнасці, а настойлівасць дапаможа дабіцца поспеху ў справах.



**КАЗЯРОГ.** Вам часцей трэба прыслухоўвацца да свайго ўнутранага голасу, ён у гэтыя дні будзе асабліва моцны і праўдзівы. А вось парады навакольных будуць якраз мець мала карысці і ніяк не звязаныя з вашымі сапраўднымі імкненнямі і жаданнямі.



**ВАДАЛЕЙ.** Не палохайцеся магчымых перамен у жыцці. Бо ўсё, што ні робіцца, – да лепшага.



**РЫБЫ.** Вам добра было б адправіцца ў якое-небудзь, хоць кароценькае, падарожжа. Вам проста неабходныя новыя эмоцыі і прылiў сіл. Бо стомленасць можа выліцца ў незадаволенасць сабой і іншымі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | | 8 | 1 | |
| | | | 4 | | | 9 | 3 | |
| 8 | 9 | | | | 5 | 4 | | |
| | | | | 4 | | 7 | 9 | 3 |
| | 1 | | 5 | | | 6 | | 8 |
| | | 2 | | | | | 4 | 1 |
| | | | | 5 | 6 | | | 7 |
| | | | | 2 | | 3 | 6 | 9 |
| 2 | | 8 | | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2017 · 2015
тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

**3 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -11 / -6 | 735 | ← 6 | -13 / -6 | 728 | ↙ 5 | -10 / -8 | 731 | ↘ 6 | -13 / -7 | 733 | ↖ 4 |
| Вільня | -12 / -5 | 737 | ↙ 6 | -11 / -7 | 737 | ↙ 6 | -14 / -5 | 740 | ↘ 4 | -14 / -4 | 739 | ↖ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 8.12
Захад 18.39
Даўжыня дня 10.27

Усход 12.20
Захад 3.39
Квадра 3

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -13 / -4 | 739 | ← 6 |
| Гродна | -13 / -9 | 741 | ↓ 5 |
| Мінск | -13 / -6 | 728 | ↙ 5 |
| Магілёў | -14 / -3 | 734 | ← 6 |
| Брэст | -13 / -7 | 738 | ↓ 4 |
| Гомель | -10 / -2 | 734 | ← 5 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -28,9 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +8,4 °C у 1997 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,3 мм у 1980 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● У рэгіёне знаходзіцца вядомы помнік гісторыі і архітэктуры – Будслаўскі касцёл. Пра яго ведаюць многія. Але вось калі маладзечанкі захацелі трапіць у яго сваім ходам, яны не змаглі гэтага зрабіць. На ўсёй трасе адсутнічаюць указальнікі, і дарога ператвараецца ў сапраўдны квэст. Мы разбяромся, ці так гэта і хто павінны ўстанавіць указальнікі?



## Да розыгрышу планшэта часу застаецца ўсё менш

Набліжаецца час розыгрышу галоўнага падарунка для ўдзельнікаў акцыі "Дзясятачка" і час паходу ў піцэрыю для самага актыўнага класа.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№9)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
   Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка____________________

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Па якіх прыкметах вы адчуваеце вясну?



**Аляксандр Усовіч, музыкант, Маладзечна :**
– Як толькі з'яўляецца жаданне запісаць чарговы варыянт песні "Люты", значыць, хутка вясна.



**Яна Вайтовіч, студэнтка, Маладзечна:**
– Сонца сляпіць вочы, снег растае. Удыхаеш асаблівае паветра і разумееш, што хутка надыдзе вясна. Можна будзе скінуць з сябе кучу адзення і з пінгвіна ператварыцца ў лёгкую птушку.



**Андрэй Федаровіч, кіроўца, Вілейка:**
– Заўважна даўжэе дзень. На падваконнях нашай кватэры з'яўляецца расада памідораў і перцаў.



**Марыя Ніканава, галоўны спецыяліст, Маладзечна:**
– Самая верная прыкмета – птушкі пачынаюць спяваць.



**Эла Кулеш, псіхолаг, Вілейка:**
– Вясну заўсёды пазнаю па асаблівым паху.



**Ірына Аліева, настаўніца, Вілейка:**
– Хочацца купіць сабе туфлі і новы лёгкі шалік.



**Сяргей Уладыка, спецыяліст па рэкламе, Маладзечна:**
– Вясна прыходзіць, калі становіцца горача рухацца ў кажуху і валёнках. Яшчэ пакуль не вясна.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчыны! Зрабіце падарунак сваім каханым – падпішыце іх на "РГ"!

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты".
Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№9 (1192) 2.03.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 230. Падпісана ў друк у 9.00 1.03.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.